PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

**ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ**

№ 20 (2244) Год XLIV Беласток 16 мая 1999 г. Цана 1,20 зл.

## Ад мяжы магчымасцей да мяжы НАТО

Лена ГЛАГОЎСКАЯ

У Беларусі, як і ў нас, пачалася вясна. Асабліва не адчуваецца розніцы ў надвор'і між Беласточчынай і Беларуссю. Розніцу хутчэй вызначае цывілізацыйны ўзровень тут і там. Там яшчэ саветызаваная ментальнасць людзей не дазваляе глядзець далей чым Расія і Беларусь. Калі аўтобус спазняецца на гадзіну, а пасля цягнецца як чарапаха, усе ціха едуць задаволеныя менавіта тым, што едуць. Аўтобус жа — цуд цывілізацыі, і наогул магло б яго не быць. І што тады? А на дварэ дождж і холад, а ў аўтобусе запоўненым да апошняга месца ўсё-такі цёпла. На заўвагу адной пасажыркі: „Водитель, мы ужо очень опаздываем", амаль усе жанчыны з аўтобуса накінуліся на яе: „А тебе куда надо, на работу или спать?" Беларускія афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі „змагаюцца" за Югаславію і супраць НАТО.

Людзі жывуць бедна, бо як можна жыць багата за 10 долараў у месяц, калі цэны на тавары на ўзроўні нашых, вядома, апрача танных хлеба і гарэлкі. Недахоп яек на Беларусі стаўся ўжо тэмай анекдотаў. 16 красавіка можна было купіць яйкі на кожным выбарчым участку, там дзе праходзілі дапаўняльныя выбары ў мясцовыя саветы. Апрача яек на прылаўках на выбарчых участках пад дастаткам было масла. Нават можна было перакуліць чарку — 50 грамаў або 100 грамаў адпаведна за 21 тыс. рублёў і 43 тысячы. Дзіўна, калі прыгадаць забарону алкаголю падчас выбараў у Польшчы. У сувязі з тым, што адзін з выбарчых участкаў змяшчаўся ў бібліятэцы Акадэміі навук, бібліятэка не працавала. Не толькі мне прыйшлося ў гэтым пераканацца. Іншыя беларускія вучоныя, якія прыйшлі папрацаваць, даведаліся ад вахцёркі, што „сегодня библиотека не работает". Сапраўды, у фае за сталом дастойна сядзела выбарчая камісія. Былі і мужы даверу, напрыклад, ад камуністычнай партыі. Паколькі быў гэта другі тур выбараў, грамадзяне выбіралі між прадпрымальнікам (якога бацька быў франтавіком, а маці — блакадніцай Ленінграда) і вучоным, якога галоўнымі лозунгамі былі інтэграцыя Беларусі з Расіяй і змаганне з НАТО. Цікава, каторы перамог? Каб людзі маглі правільна выбраць, чорна-белыя лістоўкі абодвух кандыдатаў былі прыклеены да сцяны на выбарчым участку. На маю заўвагу, што гэта выбарчая агітацыя ў дзень выбараў, пачула адказ: „Люди должны знать кого выбирают". Назіраючы, што больш людзей ідзе за яйкамі, чым прагаласаваць, падумала я, што маглі б хаця ў бібліятэцы паставіць нейкі аўтамат з напоямі. Калі сядзіш у біб-

[працяг ☞ 2]



*Вёска Качалы.* Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Эфірныя рацыі

**Пра ўзнікненне беларускай радыёстанцыі на Беласточчыне ў грамадскай свядомасці накапілася шмат міфаў — першай тэму ўзняла „Gazeta Wyborcza" ў выглядзе сенсацыйнага адкрыцця, нібыта беларусы майструюць „Радыё Вольная Беларусь". Выдумка настолькі замацавалася ў рэальным свеце, што свае парады беларусам даў нават волат эфірнай барацьбы з камунізмам Ян Новак-Езяранскі. Пайшла дыскусія пра памяшканні, перадатчыкі і... грошы. Афіцыйныя СМІ Рэспублікі Беларусь западозрылі Беласток у „чарговым падрыўным цэнтры" ды ўмяшальніцтве ва ўнутраныя справы незалежнай Беларусі. Пайшло паляванне на агентаў ЦРУ і мільёны амерыканскіх долараў...**

**Пра магчымасць узнікнення на Беласточчыне беларускага радыё гаворыць старшыня Беларускага саюза ў Польшчы Яўген ВАПА.**

***— Як Вы ацэньваеце актуальнае становішча беларускіх мас-медыяў у Польшчы дый ці наогул можна гаварыць пра такую з'яву ў нас як беларускія СМІ?***

**Яўген Вапа:** — Кажучы пра мас-медыі трэба адрозніць дзве справы — медыі гэта прэса і электронныя сродкі масавай інфармацыі. Сёння падзел такі трэба выразна ставіць, бо электронныя СМІ ў грамадстве набываюць усё большае значэнне. Гледзячы на беларускую прэсу ды выдавецкія ініцыятывы наогул, трэба сцвердзіць, што ёсць тут больш-менш стабільная або меншая незалежнасць. „Ніва", „Часопіс", „Гарадоцкія навіны", „Бельскі гостінэць", аднадзёнкі ў Бельску і Гайнаўцы — арганізацыйна ўпісваюцца ў жыццё беларускага грамадства. Электронныя ж СМІ — радыё і тэлебачанне — арганізацыйна знаходзяцца ў структурах польскага публічнага радыё і тэлебачання і тут іншая складанасць. Нагадаю ўсім чытачам, што заснаванне на Беласточчыне беларускіх перадач па радыё і тэлебачанні — выключная заслуга беларускага асяроддзя і дзеячаў, якія сабралі подпісы ў гэтай справе, прапагандавалі справу перадач на розных форумах (Сеймавая камісія нацыянальных меншасцей, Краёвая рада радыёвяшчання і тэлебачання), ці прымянялі яшчэ іншыя меры. Беларускі саюз у апошніх чатырох гадах займаўся перад усім павелічэннем эфірнага часу ў радыё і тэлебачанні — маем ужо канкрэтныя вынікі: напрыклад гадзінная перадача на беларускай мове ў суботу ў радыё і павелічэнне часу ў беластоцкім тэлебачанні.

Беларускі саюз усведамляе сабе, што на Беласточчыне не кожны мае нагоду вучыцца беларускай мове, а ў самім Беластоку гэтая мова цалкам знікае, маладыя людзі не ўмеюць карыстацца кірыліцай. Радыё і тэлебачанне таму важныя, бо ствараюць магчымасць пастаяннага кантакту з мовай і даюць надзею на захаванне нацыянальнай і культурнай тоеснасці, а гэтым самым і лучнасці з агульнабеларускай прасторай.

***— Ці тыя павелічэнні эфірнага часу — 15 хвілін кожны дзень і раз у тыдзень гадзіна па-беларуску на радыё ды раз у тыдзень 15 хвілін на тэлебачанні — задавальняюць Беларускі саюз, гэта яго канчатковая мэта?***

— Жыццё адбываецца цяпер у вялікім цывілізацыйным спеху і, як ніколі раней, патрабуе ўсебаковага асвятлення ў сродках масавай інфармацыі. Гэтага эфірнага часу, які маем цяпер — мала. Таму Беларускі саюз вырашыў дабіцца таго, што маюць іншыя нацыянальныя меншасці ў свеце і што рэальнае ў рамках польскага заканадаўства — сваё радыё.

[працяг ☞ 2]

*Канчаецца тэрмін дасылання прац на IV Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы.*

[правілы конкурсу ☞ 5]

## Айцец мітрат

Яго блажэнства Сава, мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы ўзлажыў мітру на галаву айца Рыгора Сасны з Рыбалаў. Падзея адбылася 30 красавіка, у 60-я ўгодкі з дня нараджэння настаяцеля Рыбалаўскага прыхода.

[фотарэпартаж ☞ 3]

## Ці скарыстаюць фінансавую дапамогу?

Старшыня Саюза гмін Белавежскай пушчы, бурмістр Гайнаўкі Анатоль Ахрыцюк сказаў, што мясцовым самаўрадам цяжка будзе выкарыстаць фінансавую дапамогу ў памеры 8 млн. 750 тыс. зл., калі трэба будзе далажыць ім 50 працэнтаў уласных сродкаў. У многіх гмінах растуць даўгі ад апошніх інвестыцый, а ўсюды сёлетнія бюджэты ўжо прыняты.

[шырэй ☞ 3]

## НАТО без маскі

Магутнае НАТО, цяпер ужо без маскі, ігнаруе пастановы ААН і Савета Бяспекі, хоча бамбіць усіх непакорных, так як Югаславію — краіну ў тры разы меншую за Польшчу. Нявольна думаецца, хто будзе наступнай ахвярай натаўскіх аперацый.

[чытачы аб вайне ☞ 4]

## Не адно акно на свет

Я лічу, што беларусы і ўкраінцы павінны ездзіць на фальклорныя мерапрыемствы, напрыклад у Казімеж, са сваім старадаўнім рэпертуарам і такім, які прэзентаваўся сёлета ў Варшаве. Я ведаю, што такіх калектываў у беларусаў ёсць шмат. Узяць хаця б жанчын з Арэшкава, Краснага Сяла, Крыўца, Дабрывады, Дашоў, Збуча.

[размова з аматарам фальклору ☞ 5]

## Крынічка ў Кнарыдах

Урачыстая багаслужба ў Кнарыдах здзяйсняецца ў дзесятую пятніцу пасля Вялікадня. У гэты дзень прыбываюць вернікі з навакольных вёсак. Пасля Святой Літургіі адбываецца хрэсны ход да капліцкі пры жыватворнай крыніцы.

[нарыс ☞ 9]

## Калі скажуць праўду...

Мы найбольш не любілі англічан. Часта іх трапалі. Дапамагалі нам салдаты польскага паходжання з амерыканскай арміі. Пасля, калі англічане забілі Сікорскага, інцыдэнтаў было больш.

[успаміны з-пад Монтэ-Касіна ☞ 10]

# Беларусь — беларусы

## Ад мяжы магчымасцей да мяжы НАТО

[**1** ☞ *працяг*]

ліятэцы, трэба шукаць, дзе напіцца кавы ці гарбаты, а тут усё — гарэлка і столікі з крэсламі, каб выгадней было перакуліць чарку.

Пятніца, дзень паўторных выбараў, не быў выхадным у рэспубліцы. Затое свабоднымі былі панядзелак і аўторак (19 — 20 красавіка), на які прыпадала якраз Радаўніца — дзяржаўнае свята ў Беларусі. Народ са сталіцы падаўся на чатыры дні ў розныя куткі краіны і за мяжу — на базар у Беласток. У суботу немагчыма было выехаць з Мінска на аўтобусе ў Гродна — білетаў не было ўжо дзень раней. Са сталіцы Рэспублікі Беларусь у сталіцу Гродзенскай вобласці ездзяць у суткі два цягнікі, ды і тыя ноччу. Вось табе і цывілізацыя!

Даехаўшы на Праваднуюнядзелю, 18 красавіка, на наш даваенны прыхадскі могільнік у Мінчыках, я пабачыла, што мала хто ўжо прыходзіць з Баброўнік, Ярылаўкі, Коматаўцаў на могілкі, дзе спачываюць продкі жыхароў гэтых вёсак. Могільнік па волі палітыкаў у 1948 г. апынуўся па той бок, значыць, у БССР, а памянёныя вёскі засталіся пры Польшчы. Толькі ў пачатку 90-х гадоў было дазволена пераходзіць мяжу ў Баброўніках. Раней пераходзіла шмат людзей, бо можна было пры нагодзе нешта купіць у Пагранічным або нават з'ездзіць у Бераставіцу ці Ваўкавыск. Зараз нічога апрача гарэлкі там не купіш. Тады чаго ісці! Да таго цяжка пяшком. Дзе-нідзе на могілках гарэлі знічы і стаялі штучныя кветкі. На могілках шмат забытых і невядомых ужо магіл, парослых квітнеючым барвінком і пралескамі. Паваленыя драўляныя крыжы з пачатку стагоддзя. Цяпер хаваюць там нябожчыкаў з навакольных вёсак: Мінчыкі, станцыя Бераставіца, Вораны, Цецяроўка. Мясцовыя збіраліся на могілкі на Радаўніцу: „Тады прыедзе з Клепачоў бацюшка і будзе свяціць магілы".

Назіраючы наваколле, пабачыла я, што не ўсе святкавалі Праваднуюнядзелю. Некаторыя прыбіралі панадворкі і палілі смецце. Усе размовы з „тутэйшымі" пачыналіся або канчаліся пытаннем: „А як Вам там жывецца ў НАТО?"

Наяўнасць цывілізацыйнай мяжы (і мяжы з НАТО) усведамляеш канчаткова, калі перазджаеш дзяржаўную мяжу. У часткі пасажыраў аўтобуса беларускія мытнікі знайшлі па камплекце пасцелі. Вядома, „кантрабандысты" тлумачыліся, што гэта для „личного пользования". Відаць, зналі ўказ прэзідэнта РБ, на аснове якога за межы Беларусі можна вывозіць толькі „вещи личного пользования". Мытніцы прыйшлося паясняць, што „для личного пользования" могуць яны вывозіць „трусы и носки". Калі маладога хлопца гэтае тлумачэнне моцна здзівіла і прабаваў мытніцы даказаць, што вязе пасцель для сябе, тая не вытрымала і дыскусія скончылася: „Что я вам — девочка из ресторана?!" Прыйшлося ўсе камплекты пасцелі сабраць адной асобе, каб астатнія змаглі выехаць з мытнай зоны і паспець на базар у Беласток ці Варшаву, атаварыцца там і вярнуцца дахаты. Каму Провады, каму Радаўніца, а іншым нагода крыху папрацаваць (падзарабіць), бо, вядома — трэба надта скромна жыць, каб у Беларусі пратрымацца за 10 долараў.

**Лена ГЛАГОЎСКАЯ**

## Эфірныя рацыі

[**1** ☞ *працяг*]

***— Атмасфера, аднак, не найлепшая. „Gazeta Wyborcza" запалявала на нейкае беларускае „Радыё Вольная Беларусь" як гадоў пятнаццаць таму „Trybuna Ludu" палявала на польскіх апазіцыянераў і іхнія крыніцы фінансавання.***

— З такім сцвярджэннем я поўнасцю згодны. Аднак згодна польскаму заканадаўству кожны грамадзянін мае права падаць у Краёвую раду радыёвяшчання і тэлебачання прашэнне на канцэсію. Беларусы таксама. Атмасфера сенсацыі і надзвычайнага адкрыцця тут не дарэчы. Вось, даведваемся, што ў Беластоку ўзнікаюць розныя ініцыятывы — напрыклад, праект царкоўнага радыёвяшчання. Гэта не выклікае ні сумненняў, ні запытанняў. Але, вось, калі радыёстанцыя мела б вяшчаць па-беларуску пра беларусаў — гэта ўжо сенсацыя ды ўзнікаюць дзіўныя пытанні пра „палітычную мэтазгоднасць хваляў".

***— Адкуль такое стаўленне?***

— Спалучэнне беларусаў Беласточчыны з тымі працэсамі, якія адбываюцца ў Беларусі, відаць, выгаднае кожнаму, хто шукае змову, звышпалітычны і звышгістарычны сэнс. Для нас сваё радыё — доказ усебаковай жыццяздольнасці нашага грамадства. Я аптыміст і думаю, што знойдуцца людзі, якія створаць не толькі радыё, але і падумаюць яшчэ пра тэлебачанне. Гэта цалкам нармальная і поўная інфраструктура, якой павінна карыстацца нацыянальная меншасць.

***— Як гэтае сваё радыё ўяўляецца самім беларусам, бо, пакуль што, пакутуе накінутая думка, быццам беларускае радыё на Беласточчыне мае ад нечага вызваліць Беларусь?***

— Хачу тут яшчэ раз паўтарыць: „Радыё Вольная Беларусь" — поўнасцю выдумка мас-медыяў. Такога праекта ніколі не было. Ствараючы наш праект для Краёвай рады радыёвяшчання і тэлебачання мы ніколі не думалі паўтараць схемы палітычна-ідэалагічнага радыёвяшчання, якія ведаем з мінулага. У цяперашні час такое радыё на Беласточчыне не будзе ўжо рупіцца. Нам ідзе пра тое, каб паказваць беларусаў Беласточчыны і іхнія праблемы такімі, якія яны ў сапраўднасці, а адначасна, дзеля лучнасці, інфармаваць пра падзеі ў Рэспубліцы Беларусь. Гэта найважнейшыя прынцыпы нашага праекта. А здзейсніцца ён, ці не — залежыць ужо ад польскіх дзяржаўных органаў. Права на такое радыёвяшчанне, у кожным выпадку, мы маем.

**Гутарыў Аляксандр МАКСІМЮК**

## Агонія беларускага прадпрымальніцтва

З пачатку мая спынілі сваю працу гандляры на беларускіх базарах. Прадпрымальнікі прыходзяць на свае рабочыя месцы, але тавар на продаж не выстаўляюць. Такім чынам яны спрабуюць спыніць чарговы (ці не апошні?) „накат" на іх з боку дзяржавы.

З канца красавіка з базарных гандляроў пачалі патрабаваць сертыфікаты на ўвесь тавар. Як атрымаць патрэбныя паперы ніхто не растлумачыў. Але ўжо з 25 красавіка пачаліся масавыя пакаранні прыватных прадпрымальнікаў за адсутнасць сертыфікатаў. Калі ў правінцыі гандляроў толькі штрафавалі, дык у Мінску даходзіла да канфіскацыі тавару. У дадатак з 1 мая, у сувязі з павелічэннем у два разы памеру мінімальнага заробку, павялічыўся абавязковы падатак з прадпрымальнікаў. Зараз, нягледзячы на даход, яны павінны плаціць дзяржаве штомесяц каля дзесяці мільёнаў рублёў, што значна перавышае сярэдні заробак па краіне.

Прыватнікам не засталося нічога, як спыніць працу і паспрабаваць абараніць свае правы. Аднак дзяржава расцаніла гэта як бунт. 5 мая ў Гродне быў арыштаваны старшыня прафсаюза прадпрымальнікаў Валеры Леванеўскі. Напярэдадні ён быў асуджаны на 13 сутак за тое, што з групай гандляроў прыйшоў у гарвыканкам, каб даведацца, што за сертыфікаты патрабуе ад іх улада. Міліцыя палічыла гэта несанкцыяваным мітынгам.

У адчаі прадпрымальнікі пачалі збіраць подпісы пад чарговым лістом да Лукашэнкі, быццам бы не разумеючы, што ціск на іх ідзе менавіта з рэзідэнцыі прэзідэнта.

Пасля тыдня прадпрымальніцкіх забастовак улады ніяк не рэагавалі на іх патрабаванні.

**Зміцер КІСЕЛЬ**

## Краіна мільянераў

З 1 мая ў Беларусі ўведзена ў абарачэнне новая грашовая купюра вартасцю адзін мільён рублёў. З аднаго боку банкнота змяшчаецца выява Мастацкага музея Беларусі, з другога фрагмент карціны Івана Хруцкага „Партрэт невядомай з кветкамі і садавінай". Вадзяны знак на купюры ўяўляе сабой букет кветак у вазоне. Размаляваны банкнот у сіне-зялёныя колеры.

Гэта бадай адзінае падабенства новай беларускай грашовай купюры да паўнацэнных нямецкай маркі і амерыканскага долара. Інфляцыя, пра рашучую барацьбу з якой ужо пяць гадоў гаворыць беларускі прэзідэнт, расце не зважаючы на здольнасці мастакоў з Нацыянальнага банка Беларусі. Па стане на 6 мая курс беларускага рубля складаў 430 тысяч да аднаго долара ЗША.

Зыходзячы з таго, што адначасова з уводам у абарачэнне новай купюры памер мінімальнага заробку ў Беларусі павялічыўся з 500 тысяч да 1 мільёна рублёў, можна меркаваць аб хуткім падзенні курса беларускага рубля на некалькі сотняў тысяч пунктаў.

Супраць папулісцкаму павышэнню мінімальнага заробку выступіў нават старшыня афіцыйных прафсаюзаў Ганчарык. З вопыту вядома, што за павялічэннем заробку наступіць значнае павелічэнне цэн. У „Звяздзе" за 6 мая было надрукавана паведамленне, што аплату за камунальныя паслугі па водазабяспячэнню і каналізацыі плануецца павысіць у два разы, кватрплату ў тры і г.д. У два разы павялічыцца кошт праезду ў грамадскім транспарце. Настолькі ж вырастуць стаўкі ўсіх фіксаваных падаткаў у бюджэт. Аднак, як паказвае практыка мінулых павышэнняў мінімальнага заробку, пенсіі і зарплаты грамадзян Беларусі, калі і павялічацца, дык толькі на 20-30%.

**Зміцер КІСЕЛЬ**

## Мухі-забойцы

Сотні кароў загінула ў Брэсцкай і Гродзенскай абласцях ад укусаў машкары.

Сяляне, якія ў апошнія дні красавіка вывелі сваіх кароў папасціся на першую зялёную траўку, не ведалі, што гэта скончыцца трагічна. На жывёлу нечакана наляцела маса невядомай дагэтуль машкары. Яна не толькі смактала з кароў кроў, але і заразіла вялікую колькасць жывёлы ядам, які выклікаў хваробу пад назвай сімулятаксікоз. Па афіцыйных звестках, захварэлі тысячы кароў, сотні загінулі. Дакладна не вядома адкуль на Беларусі з'явілася смертаносная машкара. Падобнае здаралася і раней, але сёлетнія мухі-забойцы адрозніваюцца ад мінулагодніх большым памерам і мацнейшым ядам.

Паратункам ад машкары з'яўляецца апырскванне кароў спецыяльнымі прэпаратамі. Аднак яны вельмі дарагія, і не кожны калгас можа дазволіць сабе закупіць гэтыя прафілактычныя сродкі, не кажучы ўжо пра прыватных гаспадароў. Па прагнозах спецыялістаў небяспека нападзення машкары на жывёлу працягнецца да сярэдзіны мая. **(зк)**

# Айцец мітрат Рыгор Сасна

Яго блажэнства Сава, мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы ўзлажыў мітру на галаву айца Рыгора Сасны з Рыбалаў. Падзея адбылася 30 красавіка, у 60-я ўгодкі з дня нараджэння настаяцеля Рыбалаўскага прыхода. У прысутнасці шматлікага духавенства і вернікаў мітрапаліт пасвяціў крыж, размаляваны дзяцьмі на XVII Сустрэчах „Зоркі". Урачыстасці спадарожнічала таксама святкаванне 120-годдзя царквы св.св. Кузьмы і Дзям'яна, а таксама ўваход у трэцяе тысячагоддзе хрысціянства.



*У святкаванне ўключыўся ўвесь прыход.*

— Канец XX веку і пачатак трэцяга тысячагоддзя, гэта эпоха ўздзеяння Святога Духа. Мы з вамі пакліканы з мільёнаў людзей у свеце быць вернікамі Праваслаўнай царквы, — сказаў мітрапаліт. — І гэта забавязвае нас уваходзіць у дасведчанні гісторыі, якая ўжо за намі, уваходзіць у жыццё нашых продкаў, бацькоў і маці, зберагаць законы сваёй Царквы, як цудоўныя традыцыі, сваю культуру і мову ды перадаваць іх тым, што пачынаюць сёння жыць. Гэта задача кожнага бацькі, маці, моладзі і дзяцей. Гэта адказнасць перад Богам і гісторыяй.

Дзень 30 красавіка стаўся прыхадскім святам у Рыбалах. Апрача мясцовых вернікаў прыход наведалі многія госці з Беластока, Варшавы, Сямятыч. У святкаванне ангажаваліся дзеці мясцовай школы, якія тлумна прыбылі ў царкву. Не падвялі таксама прадаўцыцукернікі, якія ўвялі атмасферу парафіяльнага фэсту.



*Яго блажэнства Сава, мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы.*



*Пажаданні ад былых прыхаджан з Сямятыч.*



*Ранг свята вызначыла шматлікае духавенства.*

Сапраўды, неяк дзіўна зышліся ўсе гадавіны: 120-годдзе царквы, 60-ыя ўгодкі святара, 30-годдзе яго навуковай дзейнасці, 40-годдзе службы Царкве і 12-годдзе службы ў Рыбалах. Айцец мітрат Рыгор Сасна не астаўся ў даўгу. Яго стараннем у Рыбалах узведзены цудоўны каляровы крыж з выявамі патронаў прыхода. У дзень свайго духоўнага павышэння святар-мітрат разам з Дарафеем Фіёнікам падарыў грамадству кнігу пра гісторыю свайго прыхода „Parafia Ryboły". **Г. К.**

*Фота Ганны* КАНДРАЦЮК

# Ці скарыстаюць фінансавую дапамогу?

— У сёлетнім бюджэце адведзены 20 мільёнаў злотых для прыпушчанскіх гмін і Белавежскага парку, — сказаў дырэктар Дэпартамента лясніцтва ў Міністэрстве аховы асяроддзя Мар'ян Цесляк. — На інвестыцыі ў Гайнаўскай, Нараўчанскай, Белавежскай і Дубіцкай гмінах ды горадзе Гайнаўцы прызначаем 8 мільёнаў 750 тысяч злотых, на інвестыцыі ў Белавежскім парку — 1 мільён 250 тысяч злотых і па 5 млн. зл. на распрацоўку планаў развіцця прыпушчанскага рэгіёна, ды на план пашырэння Белавежскага парку.

У Белавежскім доме культуры 29 красавіка 1999 года адбылася сустрэча міністра аховы асяроддзя Яна Шышкі, старшыні Нацыянальнага фонду аховы асяроддзя Мар'і Заянчкоўскай, падляшскага ваяводы Крыстыны Лукашук і прадстаўнікоў няўрадавых арганізацый з жыхарамі прыпушчанскіх вёсак і мястэчак.

Першым выступіў міністр Ян Шышко, які заўважыў, што 20 мільёнаў злотых не вырашаюць справы пашырэння парку. Гэта, у асноўным, дапамога экалагічным інвестыцыям. Міністр заявіў, што не будзе пашырэння парку без згоды самаўрадаў.

Старшыня Саюза гмін Белавежскай пушчы, бурмістр Гайнаўкі Анатоль Ахрыцюк сказаў, што мясцовым самаўрадам цяжка будзе выкарыстаць фінансавую дапамогу (8 млн. 750 тыс. зл.), калі трэба будзе далажыць 50 працэнтаў уласных сродкаў. У многіх гмінах растуць даўгі ад апошніх інвестыцый, а ўсюды ўжо прыняты сёлетнія бюджэты. Падкрэсліў ён таксама, што можа быць малавата часу на будаўнічыя работы, у сувязі з маруднай працэдурай падрыхтоўкі планаў і падборкай інвестараў. Паводле яго, галоўнай справай для жыхароў з'яўляецца не экалагічныя інвестыцыі, а новыя месцы працы.

— Моладзь з Гайнаўшчыны, якая ідзе вучыцца ў вышэйшыя ўстановы, не хоча вяртацца, бо тут няма працы. Выязджаюць адсюль таксама жыхары вёсак. Неабходная нам спецыяльная эканамічная зона з льготамі для інвестараў. Малараэнтабельная дрэваапрацоўчая прамысловасць і заняпад турызму таксама патрабуюць вонкавых інвестараў і сродкаў, — заявіў бурмістр, аднак не выказаўся рашуча ад імя Саюза гмін Белавежскай пушчы наконт прапановы пашырэння парку. Сказаў толькі, што прыпушчанскія гміны гатовы весці перамовы на тэму аховы пушчы.

Супраць планаванага падзелу бюджэтных сродкаў пратэставаў войт Нарваўскай гміны Якуб Садоўскі. Хаця ён з'яўляецца намеснікам старшыні Саюза гмін Белавежскай пушчы, аднак не быў запрошаны на спатканне, у час якога вырашаліся справы падзелу грошай з Міністэрства аховы асяроддзя. Сказаў ён, што ў Нарваўскай гміне 2 тыс. 900 гектараў лесу і адпаведныя сродкі на інвестыцыі гміна павінна атрымаць.

Гаспадар спаткання, войт Белавежскай гміны Станіслаў Куявяк гаварыў пра экалагічныя інвестыцыі і неабходнасць развіцця турызму, як адной з галоўных крыніц утрымання мясцовага насельніцтва. Больш рашуча супраць пашырэння парку выказваліся самі жыхары Гайнаўшчыны.

— Дзесяць тысяч гектараў пушчы — самая бяроза. Калі праз бліжэйшых дзесяць гадоў не выкарыстаем яе на матэрыял для вытворчасці, можна будзе яе прызначыць на апал. З парку ніхто не выжыве, а калі яго пашыраць, давядзе гэта да эканамічнага заняпаду, — заявіў Уладзімір Падскробка з Гайнаўкі, які раней працаваў у дрэваапрацоўчай прамысловасці. — Пасля вайны пастаўлялі мы драўніну ў Варшаву, а цяпер яны павінны дапамагчы нам у эканамічным развіцці рэгіёна.

Ян Дацкевіч — солтыс са Стачка ля Белавежы заявіў, што калі б у яго акрузе адбылося рэферэндум, то 97 працэнтаў жыхароў галасавалі б супраць пашырэння парку. Іншыя прамоўцы былі больш памяркоўныя і выказваліся за фінансавую дапамогу і стварэнне ў першую чаргу новых месц працы. Выпрацоўка форм аховы ўсёй пушчы павінна адбыцца ў другім этапе. **Аляксей Мароз**

# Ачышчальня забруджвае рэчку

Знайсці балаган у Арлянскай гміне зусім нескладаная справа. Дастаткова прыглядзецца ачыстцы сцёкавых водаў.

У снежні 1992 г. у Орлі разам з новым будынкам школы здадзена была ў карыстанне ачышчальня сцёкаў. Яе магутнасць — 150 кубаметраў у суткі — дазваляе ачысціць усе сцёкі ў мястэчку. Аднак не можа яна іх ачысціць, бо ў Орлі адсутнічае каналізацыя і таму ачышчальня не мае пастаяннага прытоку вадкіх нечыстотаў. Звычайна перапрацоўвае яна 15 кубаметраў сцёкаў, а ў час зімніх і летніх канікулаў — нічога, і па гэтай прычыне часта здараюцца аварыі.

Ужо паўгода сцёкавыя воды са школы і некалькіх навакольных дамоў не ачышчаюцца ў дастатковай ступені з-за пашкоджання аэрацыйных барабанаў, якія насычаюць вадкія нечыстоты паветрам. Не працуе таксама аўтаматычнае ўпраўленне ачышчальні і апаратару трэба наўгад уключаць і выключаць паасобныя механізмы ўручную.

На рамонт ачышчальні у сёлетнім бюджэце прадугледжана 10 тысяч злотых з Гміннага фонду аховы асяроддзя і воднай гаспадаркі. Аднак ачышчальня не рамантуецца. Ні войт гміны, ні старшыя Гміннай рады не зацікаўлены ў выкарыстанні грошай прызначаных на рамонт. А неачышчаныя сцёкі далей уліваюцца ў Арлянку і забруджваюць рэчку.

Справай арлянскай ачышчальні зацікавіўся ўжо Ваяводскі інспектарат аховы асяроддзя ў Беластоку.

**Міхал Мінцэвіч**

Чытачы аб вайне НАТО з Югаславіяй

# Косаўская праблема

Даволі позна папала мне ў рукі „Ніва” н-р 14 (2238) ад 4 красавіка 1999 г. з рэдакцыйным артыкулам „Югаслаўскі палігон”. Я згодны з ім, аднак напачатку хачу адзначыць, што я не пагаджаюся з дыктатарскімі дзеяннямі прэзідэнта Мілошавіча, але і НАТО паступіла па-дыктатарску. Гэтая арганізацыя была заснавана дзеля самаабароны, а сталася фактычна агрэсарам, які пачынае мяшацца ва ўнутраныя справы іншых дзяржаў.

Падзеі на Балканах не з'яўляюцца нечым новым, яны былі прычынай I сусветнай вайны. У гэтай вайне сербы ваявалі на баку Антанты і пацярпелі вялікія людскія страты, але выйшлі з вайны пераможцамі. Пасля вайны была ўзнікла незалежная Югаславія. Але ў гэтай дзяржаве пачаў праяўляцца харвацкі сепаратызм. Паколькі харваты — католікі, італьянцы школілі на малым бязлюдным востраве харвацкіх дыверсантаў і засылалі ў Югаславію.

У час II сусветнай вайны немцы стварылі незалежную Харватыю на чале з дыверсантам Павелічам, які меў блізкія кантакты з Ватыканам і пры ягонай падтрымцы нішчыў сербаў у канцэнтрацыйных лагерах, дзе камендантамі былі святары і манахі. Па вайне злачынец Павеліч апынуўся ў палоне ў амерыканцаў, але неспадзявана знік і трапіў у Ватыкан. Там зрабілі яму фальшывыя паперы і ціха адправілі ў Аргенціну.

Пасля вайны наступіў падзел сфераў уплываў у Еўропе: на Усходзе — свет камуністычны, а на Захадзе — дэмакратычны. Але Цітаў камунізм не быў сталінскі, а больш ліберальны. Па смерці Ціта і развалу СССР пачала распадацца і Югаслаўская Федэрацыя. Распалася яна ў барацьбе, у аснове якой ляжалі нацыянальныя і рэлігійныя пытанні.

Стагоддзі таму большасць народаў на Балканах была славянскага паходжання, але акупацыі туркаў, аўстра-венгерцаў, немцаў і італьянцаў падзялілі балканскіх славян і зрабілі іх непрымірымымі ворагамі.

Косава з'яўляецца тэрыторыяй Сербіі і ў даным выпадку НАТО паступіла няслушна, робячы інвазію на чужую тэрыторыю. Сербія не пагражала ніякай дзяржаве як гэта зрабіў Ірак. Калі б не дапамаглі далейшыя перагаворы, то можна было б ізаляваць Сербію эканамічнай, культурнай, палітычнай ці іншай блакадай, а не бамбёжкай. Пасля месяца бамбёжкі нават саюзнікі ЗША пачалі гаварыць пра эканамічную блакаду. А чаму яны гэтага не зрабілі раней? З боку выглядае несур'ёзна, калі НАТО, якое мае нейкіх 500 мільёнаў насельніцтва і перадавую баявую тэхніку, руйнуе малую і бедную 8-мільённую краіну.

Дрэнна было і тое, што справай занялася не Арганізацыя Аб'яднаных Нацый, а ваенная арганізацыя, якая сілай дыктуе свае ўмовы міру Сербіі. Але кожны мір заключаны пад пагрозай мяча з часам можа выклікаць новы канфлікт.

На мірных перагаворах сербаў з косаўцамі ў Францыі, апошнія дамагаліся свае дзяржаўнай незалежнасці, але Захад ахвяроўваў ім аўтаномію ў межах Югаславіі. Не ўсе косаўцы згадзіліся на аўтаномію. Частка іх пастанавіла змагацца за сваю дзяржаўную незалежнасць у радах Косаўскай вызвольнай арміі. Сербы на гэта адказалі тэрорам.

У выніку НАТО пачало пагражаць ваеннымі дзеяннямі. Такая палітыка спадабалася косаўцам і яны пачалі дамагацца ад НАТО пачаць баявыя дзеянні супраць сербаў. І яны пачаліся. Вынікі мы бачым.

Падзеі ў Сербіі нічога добрага не даюць і Беларусі. Беларусы, як і расійцы, спачуваюць сербам і гэта збліжае іх. Палітыка НАТО можа прывесці да таго, што ў Расіі можа паўстаць камуністычны ўрад з камуністычным прэзідэнтам і зноў пачнецца халодная вайна і гонка ўзбраенняў.

**Юры Весялкоўскі**

# НАТО без маскі

Калі амерыканцы бамбілі Ірак, людзі гаварылі, што Багдад ад нас далёка і вайна нам не пагражае. Калі ж бамбавыя і ракетныя ўдары НАТО абрушыла на Югаславію, народ занепакоіўся, бо будучыня стала няпэўнай.

Можна пачуць думку, што свет імчыцца да самага страшнага, да вялікай вайны. Урокі II сусветнай вайны чалавецтва стала памалу забываць. Многае перавярнулі дагары нагамі. Расце ўжо трэцяе пасляваеннае пакаленне, якому вайна 40-х гадоў стала далёкай гісторыяй. А гісторыя часам дзіўна паўтараецца.

У 1936 годзе гітлераўскія самалёты бамбілі Іспанію. Гэта была прэлюдыя II сусветнай вайны. Ці бамбёжкі Югаславіі 1999 года не стануць трагічнай прэлюдыяй для народаў Еўропы, а можа і свету?

Справа ў тым, што цяпер наступіла нераўнавага сіл у карысць НАТО. Няма, так сказаць, моцнай арміі міру. Калі НАТО адчула сваю перавагу, адразу скінула маску і паказала свой воўчы характар. НАТО без маскі — гэта армія вайны, якая апошнім часам узмоцнілася тэрытарыяльна і мілітарна. Да гэтага выдатна прычыніліся Польшча, Венгрыя і Чэхія, прыступаючы да агрэсіўнага альянсу.

Магутнае НАТО, цяпер ужо без маскі, ігнаруе пастановы ААН і Савета Бяспекі, хоча бамбіць усіх непакорных, так як Югаславію — краіну ў тры разы меншую за Польшчу. Нявольна думаецца: хто будзе наступнай ахвярай натаўскіх аперацый?

Бамбардзіроўкі югаслаўскіх гарадоў — гэта агрэсія супраць суверэннай дзяржавы, супраць сербаў, чарнагорцаў, албанцаў і іншых грамадзян Новай Югаславіі. Міратворчыя мэты так нельга дасягнуць.

З Беласточчыны, папраўдзе, цяжка зразумець, чаму албанцы ў Косаве ваююць з сербамі. Сёння адраджаецца нацыяналізм і нават невялікія народы імкнуцца да незалежнасці. Дзіўна, што косаўскія албанцы хочуць аб'яднацца з беднай маленькай Албаніяй. А можа сужыццю сербаў і албанцаў перашкаджае рознае веравызнанне? Адпаведна „падагрэтыя” веравызнанні могуць стаць крыніцай рэлігійнага фанатызму, ад якога блізка да канфліктаў паміж народнасцямі.

Канстатуючы: ваюючы нацыяналізм, сепаратызм і рэлігійны фанатызм непазбежна вядуць да агрэсіі, да вайны.

Сёння нельга спаць спакойна, мір негарантаваны. З малой югаслаўскай вайны можа разгарэцца вялікі пажар. Я выказваюся за тое, каб такі сцэнарый ніколі не споўніўся.

**Мікалай Варанецкі**

# Сталёвая лэдзі

Адной з ініцыятараў варварскіх бамбардзіровак Югаславіі з'яўляецца дзяржаўны сакратар ЗША, Мадлен Олбрайт. Першы раз у гісторыі ЗША жанчына (цяпер 60-гадовая) заняла такую важную пасаду ў дзяржаве, пятую па ступеньках улады — пасля прэзідэнта, віцэ-прэзідэнта, спікера сената і палаты прадстаўнікоў. Яна мае вялікі ўплыў на самога прэзідэнта Біла Клінтана, хаця ён да гэтага не прызнаецца. Ён гаворыць, што толькі яна ўмее лепш за іншых фармуляваць яго знешнюю палітыку і таму ён яе трымае. Хто яна? Адна ізраільская рускамоўная газета напісала: „Мадлен Олбрайт падобная да бульдога а позірк у яе востры, ястрабіны і палітычныя схільнасці, як у амерыканскага паляка Збігнева Бжазінскага. Ведаем жалезных лэдзі, а яна сталёвая”.

Дзіцячыя гады Мадлен Олбрайт прайшлі ў Чэхаславакіі. Яе бацькі былі яўрэямі, але ў 30-я гады замянілі юдаізм на каталіцызм. Бацька яе, Іозэф Корбель, быў дыпламатам. Перад акупацыяй немцамі Чэхаславакіі ён перавёз сваю сям'ю ў Швейцарыю, а пасля ў Англію, дзе працаваў у чэхаславацкім эміграцыйным урадзе прэзідэнта Бенеша. У 1948 г. сям'я Корбеляў пераехала ў ЗША і Марыя (так яе тады называлі) на 9-ым годзе жыцця прыняла імя Мадлен, якое мела яе амерыканская бабка.

М. Корбель закончыла ў ЗША Калумбійскі універсітэт і стала палітолагам. Тады выйшла замуж за багатага амерыканскага журналіста Олбрайта. Пасля напісала доктарскую дысертацыю „Роля друку ў падрыхтоўцы пражскай вясны (антысацыялістычны рух у Чэхаславакіі ў 60-70 гады)”. Кіраўніком быў Збігнеў Бжазінскі. У яе нарадзіліся тры дачкі, першыя дзве — блізняты нарадзіліся 6 тыдняў зарана і былі вельмі слабыя. Але навуковую кар'еру маці яны не спынілі. Мадлен вучылася рускай мове, бо была ёй патрэбная, каб выдаць кнігу „Савецкая дыпламатычная служба. Партрэт эліты”. Чэшская, славянская мова, якую яна добра ведала, памагла ёй асвоіць, акрамя рускай, таксама польскую і сербскахарвацкую мовы. Нядаўна яна выступала па радыё на сербскахарвацкай мове супраць прэзідэнта Мілошавіча.

У Жэневе яна пазнаёмілася з французскай мовай. М. Олбрайт пачаткова працавала ў Джорджтаўнскім універсітэце. У 80-я гады кінуў яе муж, але аставіў ёй вялікі дом у Вашынгтоне і ферму ў Вірджыніі. Пасля развода Мадлен кінулася ў палітыку. Арганізавала ў сваім доме раўты, абеды, вечарынкі і знаёмілася з многімі важнымі лідэрамі дэмакратычнай партыі. Яе сяброўкай стала жонка Біла Клінтана, Хілары. І калі ў 1992 годзе Біл Клінтан стаў прэзідэнтам ЗША, Мадлен атрымала пасаду сталага прадстаўніка ЗША ў ААН. Там яна знаёмілася з дыпламатамі і змагалася за інтарэсы ЗША. Рэспубліканцы называюць яе „моцнай і адважнай лэдзі”. Гэта яна змагалася, каб бамбардзіраваць сербскія пазіцыі ў Босніі, каб замацаваць эмбарга вакол Кубы, а пасля распаду СССР часта выступала, каб Расію не лічыць больш вялікай дзяржавай і не прызнаваць ёй сферы ўплываў за граніцамі. Гэта яна зрабіла інтрыгу, каб зняць з пасады былога генсека ААН Бутраса Галі і замяніць яго паслухмяным уладам ЗША Кофі Ананам. Менавіта таму пераход М. Олбрайт на пасаду дзяржсакратара падтрымалі і рэспубліканцы. У ЗША дрэнна ведаюць іншыя мовы. Амерыканцы лічаць, што ўсе дыпламаты павінны карыстацца англійскай мовай. Біл Клінтан хваліць Мадлен, што яна ведае многія мовы, што гаворыць з Ельцыным і Прымаковым па-руску без перакладчыка. Амерыканскія газеты хваляць яе за нацыскі на Расію, за яе бескампраміснасць і ціганне за натаўскую экспансію на Усход. Пасля распаду СССР камуністычная наменклатура і яе лідэры з Ельцыным на чале раскралі багацце Расіі, вывезлі мільярды долараў за граніцу, давялі агромную масу насельніцтва да крайняга ўбоства, а карупцыя ахапіла ўсе эшалоны ўлады. М. Олбрайт лічыць, што Расію няма патрэбы ўспрымаць як вялікую дзяржаву, хаця і мае яна атамную зброю, і таму намагалася бамбардзіраваць Югаславію, каб яшчэ больш прыніжыць Расію і паказаць, што яна не зможа памагчы слабой Югаславіі. І не зможа, бо яна сама трашчыць па швах.

**На падставе рускамоўных газет апрацаваў Дзмітры Шатыловіч**

# Прапагандаванне цвярозасці

Вучні Бельскага белліцэя 23 красавіка 1999 года арганізавалі вечарыну, у час якой прапагандавалі цвярозы і здаровы стыль жыцця. Сустрэча наладжана была з дапамогай Гарадской камісіі па вырашэнні праблем алкагалізму і Гарадской управы. Апрача вучняў, настаўнікаў і бацькоў прыйшлі спонсары і прадстаўнікі гарадскіх улад, сярод якіх быў бурмістр Бельска-Падляшскага Андрэй Сцепанюк.

Спачатку ліцэісты выказваліся ад імя дзяцей бацькоў пакутуючых ад алкагалізму. У слоўна-музычным мантажы паказалі яны ўсю трагедыю сем'яў алкаголікаў праз прызму дзіцячых перажыванняў. У песнях і вершах заяўлялі яны, што ўсе, якія на штодзень сябруюць з алкаголем, гэта таксама вартасныя людзі, якім абавязкова трэба дапамагчы. Выступленні моладзі праходзілі пад лозунгам „Цвярозасць заўсёды модная, тады будзьма моднымі”.

У час спаткання падведзены былі вынікі школьнага мастацкага конкурсу „Цвярозасць — трывалы звычай моладзі”. У другой частцы мерапрыемства паказваліся сатырычныя сцэнкі. Ліцэісты складалі таксама лозунгі пра цвярозасць і прыдумвалі гульні без алкаголю. Пасля ўсе ўдзельнікі мерапрыемства прыня-



*У ролі нецвярозага гнома Эміль Матысюк.*

лі ўдзел у безалкагольным пачастунку, падчас якога падаваліся кактэйлі з сокаў. Імпрэза закончылася дыскатэкай.

— Вельмі добра, што вучні хацелі заняцца гэтай сарамлівай тэмай, — кажа школьны педагог Марыя Нікалаюк, адна з арганізатараў сустрэчы. — Напэўна ад гэтага застануцца ў ліцэістаў і ў дарослых нейкія рэфлексіі. Можа ў час прыватных сустрэч некаторыя вучні адмовяцца ад алкаголю ўвогуле або абмяжуюцца да сімвалічнай чаркі. **(ам-з)**

*Фота Аляксея Мароза*

# Не адно акно на свет

**Са ЗБІГНЕВАМ НАСЯДКАМ, лаўрэатам ІІ конкурсу фольк-музыкі „Новая традыцыя", які адбыўся ў канцы красавіка гэтага года ў Варшаве, гутарыць АДА ЧАЧУГА.**

***— Вiншуем цябе, Збышак, з ганаровым вылучэннем!***

— Праўду кажучы, мы прыехалі на конкурс не дзеля таго, каб перамагчы, а каб даць узор маладому пакаленню, каб даказаць, што жамчужыны ляжаць у іх пад нагамі, а яны спяваюць і іграюць абы-што.

Як вядома, інспірацыяй для фольк-музыкі з'яўляецца традыцыйная народная музыка. У Грэцыі, напрыклад, дзе такая музыка называецца **бузукі** (ад назвы інструмента), ці ў Іспаніі традыцыйная музыка звычайна з'яўляецца падставай папулярнай музыкі. У нас умее гэта рабіць Марыля Радовіч.

***— У мінулым годзе, на XXXII Фестывалі народных аркестраў і спевакоў у Казімежы над Віслай ты таксама быў лаўрэатам!***

— Так, на тым конкурсе я быў наймалодшым (сёлета — найстарэйшым). Там нават акардэон не мог прысутнічаць, не было акампанементу. Магла быць толькі трохрадка і педалоўка.

Сёлета, на фестывалі фольк-музыкі мог быць выкарыстаны кожны інструмент, **апрача сінтэзатара**: цымбалы, флейта, акардэон, гітара, кантрабас, скрыпка, бубны — усё **„без прунду"**, але нават і электрычная гітара. Была гэта, так сказаць, апрацаваная народная музыка.

***— Ці на фестывалі ў Казімежы ў мінулым годзе былі нейкія праявы беларускай музыкі?***

— Не! Упершыню там выступіла лэмкаўская капэла, ды і то, здаецца, па волі міністэрства.

Я лічу, што беларусы і ўкраінцы павінны ездзіць на такія мерапрыемствы са сваім (калі хто мае, вядома) старадаўнім рэпертуарам і такім, які прэзентаваўся сёлета ў Варшаве. Я рэгулярна бываю на фестывалях беларускай песні і ведаю, што такіх калектываў у беларусаў ёсць шмат. Узяць хаця б жанчын з Арэшкава, Краснага Сяла, Крыўца, Дабрывады, Дашоў, Збуча і іншых. Сёлета былі песні з паўднёвага Падляшша, але дапасаваныя да польскай мовы. А ў такіх конкурсах павінна прысутнічаць рэгіянальнасць у поўным яе аб'ёме.



***— Ці ў сёлетнім конкурсе ў Варшаве былі беларускія інспірацыі?***

— А як жа! Першы быў **калектыў „Музыканты" з Кракава**. Ён заспяваў песню **„Rzeko, czemuś ty nie pełna"**, якую развучыла лідэрка калектыву, будучы ў Крынках з эксперыментальным тэатрам „Гардзеніцы" з Любліна. Сёння яны жывуць са сваёй музыкі. Іграюць у рэстаране і вучаць іграць і спяваць народныя песні (польскія, украінскія, яўрэйскія, беларускія, славацкія). На гала-канцэрце яны заспявалі песню: „Ах, мама, мама, люблю цыгана Яна". У конкурсе калектыў гэты заняў першае месца.

На другім месцы апынуўся **калектыў са Шчэціна**. Калі аб'явілі, што ён праспявае ўкраінскую песню пра жураўлёў, я думаў, што яны сапраўды заспяваюць вельмі сумную ўкраінскую песню аўтарства Багдана Лэпкага, якую уніяты спяваюць на пахаваннях. А тут чую з дзеканнем і поўным аканнем песню „Ой, ляцелі жураўлі, селі-палі на раллі". У Казімежы яна была прадстаўлена ў спольшчаным варыянце.

Я спытаў у лідэркі, прыгожай дзяўчыны, адкуль яны ведаюць гэту песню, бо гэта ж беларуская песня. А яна кажа, што гэта цёця яе навучыла, але яна не ведала, што гэта па-беларуску.

Вылучэнне атрымаў **калектыў з Вроцлава**, які спяваў шматгалосыя ўсходнеславянскія песні і беларускіх сярод іх было бадай, найбольш. Яны сказалі, што навучыў іх Ян Бернад з Любліна. У Вроцлаве спяваюць, падумаў я, а ў Беластоку ніхто не хоча ад Бернада вучыцца і нават не пішуць тут у газетах, калі ён сюды прывозіць калектывы з архаічным спевам. У Варшаве нядаўна проста захапляліся калектывам „Дрэва". На яго выступленні сабралася дзве тысячы чалавек. Менавіта Ян Бернад, вядомы музыколаг, які праводзіць свае доследы і збірае песенны матэрыял на Беласточчыне, а найчасцей у ваколіцах Нараўкі, заахвоціў спяваць і жанчын з Крыўца, якія выступалі на Фестывалі беларускай песні ў Беластоку.

***— Што ты, Збышак, прэзентаваў на сёлетнім конкурсе ў Варшаве „з праваслаўнай парафіі"?***

— Спачатку быў гуцульскі заспеў, а пасля я заспяваў беларускую песню „Рэчанька". „Фольк" заключаецца ў тым, каб традыцыйную народную музыку дастасаваць да сённяшняга маладога пакалення. Гучаннем, інструментамі і рытмам. Я спяваў з акампанементам гітары, на якой іграў Павел Шымански з Беластоцкага тэатра лялек. Ён мне дапамог у аранжацыі і спяваў са мною. Трэцяя песня гэта была: „Як была мала, мала", я яе спяваў па-падляшску. Калісь мая мама прывезла яе з Палесся, дзе мой бацька да 1939 года быў настаўнікам. Пасля я яе пачуў недзе ў Чыжоўскай гміне.

Пасля яшчэ была „Чайка" з касеты калектыву „Гілка" (галінка), якая прэзентуе паўднёваўкраінскі архаічны фальклор. Я гэту касету купіў у праваслаўным брацтве пры царкве святога Мікалая. Аднак, гэта быў ужо „фольк", бо я спяваў з акампанементам гітары.

***— А ці спяваў ты песні „са сваёй парафіі"?***

— Так, я заспяваў пяць курпёўскіх песень, бо я родам з Курпяў. Я не спяваю агульнапольскіх песень, з-па-за майго рэгіёна. Мо толькі „O mój rozmarynie", ды і то ўсяго два куплеты.

***— Адкуль у цябе такая фасцынацыя ўсходнеславянскай культурай, песняй?***

— Адкуль? Не, гэта не генетычная спадчына, а дзякуючы выхаванню. Бацькі мае ўмелі спяваць па-палеску, хаця мае продкі спявалі толькі па-курпёўску.

Узмоцніла ўсходнеславянскую частку маёй душы вучоба ў Харкаве. Я тады быў малады і паглынаў у сябе ўсё, як губка.

***— Ну, і, пэўна, жонка Тамара, якую ты знайшоў у тутэйшых Тапалянах, зрабіла свой уплыў?***

— О так, цяпер на святах і конкурсах мушу спяваць па-беларуску! Адзін журналіст у Варшаве запытаў у мяне, ці калі я спяваю, дык мне здаецца, што я вандрую па Беларусі, Расіі, Украіне. І я яму адказаў: калі я, курп, спяваю ўсходнеславянскую песню, дык адчуваю, што я ў сябе дома. Гэта маё неба, мой культурны скарб, які я сам сабе выпрацаваў.

Калі я загляну ў зборнік песень, якія спявае калектыў з Дабрывады, то заўважыў, што найстарэйшыя, вясельныя, па змесце і нават музыцы былі амаль ідэнтычныя з курпёўскімі.

***— Адным словам, ты лічыш, што гэта ўсё — наша супольная спадчына?***

— Я стараюся пазбягаць слова „меншасць". Гэта ў нас двухкультурнасць. І гэта найвялікшае шчасце, што мы тут, на Беласточчыне, маем не адно акно на свет.

***— Ці не шкада табе, што ты па прафесіі інжынер-рольнік, які закончыў Затэхнічны інстытут у Харкаве, а не школіўся ў музычным напрамку са сваёй душой артыста?***

— Я нічога ў жыцці не шкадую. Пасля вайны я разам з сястрою здаваў у Музычную школу. Сястру ўзялі, а мяне не прынялі. На жаль, з маёй сястры ў сэнсе музыкі нічога не выйшла, а я вось спяваю...

***— А што б ты параіў беларускім культурным дзеячам?***

— А тое, што нічога не выйдзе з сінтэзатарам і штучным барабаншчыкам. Трэба рабіць так, як рабілі спачатку. Фольк-музыка таксама для эстрады. Ніякі паэт не прыдумае лепшых слоў, чым напісаў народ. Хіба, што быў бы гэта Багдановіч ці Шаўчэнка. Народная скарбніца невычэрпная.

***— Дзякую за размову!***

**Гутарыла Ада Чачуга**

# IV Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы

Рэдакцыя „Нівы" і Беларускі саюз Рэспублікі Польшча аб'яўляюць IV Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы.

**Тэматыка**

Арганізатары не абмяжоўваюць тэматыкі дасыланых твораў. У конкурсе будуць разглядацца працы на беларускай мове.

**Прынцыпы ўдзельніцтва**

1. Конкурс праводзіцца ў трох узроставых групах:

— І група: дзеці і моладзь пачатковых школ,

— II група: моладзь сярэдніх школ,

— III група: дарослыя (выключна аўтары, якія не з'яўляюцца членамі літаратурных творчых саюзаў).

2. У рамках груп конкурс праводзіцца ў двух катэгорыях: паэзіі і прозы.

3. Конкурсныя працы, надрукаваныя на машынцы або разборліва рукапіс у трох экземплярах (паэтычныя творы — 3-5 вершаў, іншыя літаратурныя формы — аб'ёмам да 22 старонак стандартнага машынапісу) трэба падпісаць крыптанімам, пазначыць нумарам узроставай групы і паслаць на адрас:

**Redakcja „Niwy"**
**ul. Zamenhofa 27**
**15-959 Białystok**

з прыпіскай на канверце: IV Ogólnopolski Konkurs Poezji i Prozy Białoruskiej.

4. Прозвішча, імя і дакладны адрас аўтара дасланых конкурсных прац трэба памясціць у асобным заклееным канверце, падпісаным звонку такімі нумарам узроставай групы і крыптанімам, як і конкурсныя працы.

5. На конкурс трэба дасылаць творы, якія дагэтуль нідзе не друкаваліся і не ўзнагароджваліся на іншых конкурсах.

6. Арганізатары не вяртаюць дасланых твораў.

**Тэрміны**

1. Тэрмін дасылання конкурсных прац мінае 16 мая 1999 г. (вырашае дата паштовага штампа).

2. Конкурс завершыцца да 30 чэрвеня 1999 г.

3. Аб'яўленне вынікаў і ўручэнне ўзнагарод адбудзецца на адмысловай сустрэчы. Аб тэрміне мерапрыемства лаўрэаты і астатнія ўдзельнікі конкурсу будуць паінфармаваны і запрошаны прыняць у ім удзел. Прадугледжваецца таксама аўтарская сустрэча з лаўрэатамі.

**Узнагароды**

1. Арганізатары прыдбалі грашовыя і рэчавыя ўзнагароды. Дапускаюцца таксама ўсялякія іншыя ініцыятывы арганізацый і прыватных асоб з мэтай павелічэння колькасці ўзнагарод. Арганізатары будуць садзейнічаць такім ініцыятывам.

2. Арганізатары ўстанаўліваюць 1-3 узнагароды для найлепшых дэбютантаў. Аб падзеле і вартасці астатніх узнагарод рашае ўстаноўленае арганізатарамі журы.

3. Журы можа не выкарыстаць усяго фонду ўзнагарод.

4. Арганізатары прадугледжваюць магчымасць публікацыі ўзнагароджаных твораў (без права аўтараў на ганарары) на старонках „Нівы", у агульнапольскім друку і па радыё.

5. Як дадатковая ўзнагарода прадугледжваецца выданне асобнага зборніка ўзнагароджаных і дадаткова вылучаных цераз журы прац.

**Заключныя заўвагі**

1. Працы, якія не адпавядаюць правілам конкурсу, не будуць разглядацца.

2. У справах, якія вынікаюць з супярэчлівага тлумачэння правілаў, канчатковае рашэнне выносяць арганізатары ў паразуменні з журы.

3. Сакратарыят конкурсу змяшчаецца ў:

Redakcja „Niwy"
ul. Zamenhofa 27
15-959 Białystok 2
skr. poczt. 149, tel. 743 50 22

Тут можна атрымаць дэталёвую інфармацыю.

Запрашаем прыняць удзел у конкурсе і жадаем поспехаў. **АРГАНІЗАТАРЫ**

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Пад такім лозунгам праходзілі другія ўжо міжшкольныя сустрэчы дзяцей з Гарадка і Нарвы. Год таму мерапрыемства наладзілі ў Гарадку, сёлета, 30 красавіка г.г. — у Нарве. Такім чынам у мясцовай школе атрымалася вясновае, радаснае свята.

Дзеткі з Гарадка, вучні другога і трэцяга класаў прыехалі са сваімі мамамі і настаўніцай беларускай мовы **Тамарай Бялькевіч**. Разам — трыццаць восем асоб. Для нарваўскіх сяброў паказалі яны пастаноўку паводле беларускай народнай казкі „Як курачка пеўніка ратавала". Разам з гаспадарамі гулялі яны ў загадкі, а за добрае выступленне атрымоўвалі ўзнагароды. Пазней, за застаўленым ласункамі сталом, наводзілі цікавыя знаёмствы з нарваўскімі аднагодкамі.

Гаспадары, пад кірункам настаўніцы беларускай мовы **Ніны Абрамюк** старанна і адмыслова падрыхтаваліся да сустрэчы. Зала, дзе выступалі дзеці была ўпрыгожана свежай зеленню. Як пазней паказалася, гэта быў фон для спектакля „Як дзіця змагалася з ведзьмамі". У ролі ведзьмы выступіла ашаламляючая **Аня Іванюк**, якая, дарэчы, атрымала вылучэнне на апошнім тэатральным аглядзе ў Кляшчэлях, а яшчэ раней заваявала Гран-пры ў школьным дэкламатарскім конкурсе „Роднае слова".



*Пастаноўка „Як дзіця змагалася з ведзьмамі": Аня Іванюк (першая злева), Дыяна Якашок, Міхаліна Гева.*




*Юны дэкламатар з Нарвы.*

Многа весялосці выклікала пастаноўка гумарыстычнай бытавой сцэнкі „Дзед і баба".

— У нас чатыры тэатральныя групы і вельмі багаты рэпертуар, — кажа Ніна Абрамюк.

Апрача аматараў тэатра, гледачы паслухалі ўрачыстых дэкламацый школьнікаў і песень, падрыхтаваных пад кірункам **Алі Алімоўскай**. Мастацкія выступленні заказвала, разам са спадарыняй Абрамюк, адважная **Віялета Ляшчынская**, пераапранутая ў касцюм клоўна.

— У такі спосаб мы можам прадставіць нашым сябрам з Гарадка і заадно бацькам нашых дзяцей формы працы, якія прымяняем на ўроках роднай мовы. Бывае, што пасля такой сустрэчы дзеці запісваюцца на ўрокі, — кажа Ніна Абрамюк.

## У нас — так! А як у вас?

Настаўніца прадставіла таксама сёлетніх лаўрэатаў прадметнага конкурсу: **Дыяну Яканюк** і **Эву Зубрыцкую**. Лаўрэаткі могуць цяпер паступаць у любую сярэднюю школу ў Польшчы.

У Нарву прыехала настаўніца польскай мовы з Беластока **Яўгенія Пятрышык** з дачушкай Сарай. Сара таксама выступіла на сцэне з беларускімі вершыкамі. Дзяўчынка вывучае беларускую мову ў ПШ н-р 11.

— Я пад вялікім уражаннем сённяшняга мерапрыемства, — сказала настаўніца польскай мовы.

— Гэта цікавая прапанова для тых, якія не ходзяць на ўрокі беларускай мовы, — адзначыла дырэктар школы **Аліна Асташэўская**.

Шкада толькі, што беларускае мерапрыемства не падтрымалі гмінныя ўлады, а толькі прыватныя спонсары:

**Андрэй Асташэўскі, Аляксандр Астроўка, „Рольмак", Аня Яканюк і Вера Кірылюк.**

ЗОРКА

*Фота Г. Кандрацюк*




*Госці з Гарадка. Разам з дзеткамі настаўніца беларускай мовы Тамара Бялькевіч.*

*Ніна Абрамюк ставіць загадкі.*



### *Яна — Мама*

З мамай заўсёды добра.
Калі я дастану двойку
— яна суцяшае.
Заўсёды, калі мне сумна
— яна суцяшае.
Калі баліць зуб
— яна суцяшае.
Калі скалечуся
— яна суцяшае.
Калі праца не пад сілу
— яна суцяшае.
Калі плачу
— яна суцяшае.
Яна заўсёды
суцяшае.

**Марта Асташэўская, ПШ у Нарве**

### *Дождж*

Дождж л'е на лясы,
Дождж л'е на лугі.
А я сяджу ў школе
І гляджу на хмарнае неба,
Гляджу, як яно выпускае слёзы.
Дрэвы хістаюцца ад ветру
З аднаго боку ў другі.
Усе людзі пахаваліся ў свае хаты
Каб не змокнуць на двары
ад дажджу.
А я сяджу ў школе
І гляджу ў тое акно,
За якім дождж л'е на лес.

**Іаанна Сяткоўская, ПШ у Нарве**

# Любчыны прыгоды

*(амаль дзённік)*

**Хто ў летнім садзе жыве (2)**

Як сам — то мо і паспеў бы! А з Любкай — пакуль даехаў да дамка Пётравага, што ў самым куточку, ля Фантанкі, у Летнім садзе стаіць, дык тут і прылавіў іх дождж, ды такі буйны — сцяной лье!

Не, думае татка, не паспеем, трэба тут недзе хавацца. А дзе схаваешся, калі пад дрэвамі — там спачатку суха было, — месцы ўжо амаль занятыя!

Пасунуліся трохі людзі — бачаць: дзіця малое! — а татка каляску насупраць ветру паставіў, умацаваў шчыток, парасон над каляскай расхінуў, а там, дзе парасон не закрывае, целам сваім прыкрыў: дождж — хоць і буйны — не бяда! Але вецер — такі моцны, ажно голле старое ламае. І хаця каляска амаль пад самым дрэвам стаіць, хто ведае, куды вецер тую ламачыну шпурне?! Вось і бараніў дачушку!

Спіна ў бацькі даўно мокрая — ужо і дрэва не ратуе: нават каля самага камля мясціны сухой няма, — але што тая спіна — абы Любку не зачапіла.

Зірне пад шчыток — ці не разбудзілі перуны дачушку, — а тыя як гахнуць! як гахнуць! — толькі сціскаешся ўсім целам ды молішся: каб жа пранясло! каб жа пранясло! А Любка — не ўздрыгне нават: спіць сабе і спіць! Дзівіцца татка, а сам парасон мацней трымае — каб вецер не вырваў.

Хвілін з дваццаць ліло ды круціла. А потым — як хто крылом махнуў — рэдзенькі пайшоў, знясілены. То, мяркуе татка, ехаць трэба, пакуль яшчэ адна хмара не прыпаўзла.

Пакацілі яны — проста па лужынах — абы хутчэй! Бо татка — даўно наскрозь мокры, а маці вочы прагледзела, ля акна стоячы, а як убачыла, што едуць, дык ажно ўздыхнула — жывая! Татку адразу ў сухое, бо з яго — як з ката мокрага, цячэ, а Любка — як спала, так і спіць. Во дзе шчаслівая, думае татка, а сам усё дзівіцца, што яна перуноў не чула. Прынёс яе ў хату ды гэтак, не распранаючы, на ложак і паклаў — хай дабірае сваё! Дзіця ніколі чапаць не трэба, пакуль яно само не прачнецца.

Ой, надоўга страхі тыя навальнічныя татку запомніліся. А як падрасла Любка, дык ён і расказаў пра гэтае здарэнне. А яна — не-не, ды і ўспомніць — зноўку пераказаць просіць. І — па вачах відаць — таткам ганарыцца, як ён яе ад навальніцы ратаваў. Такія вось прыгоды з імі былі.

*(працяг будзе)*

**Анатоль КІРВЕЛЬ**



*Аўтарка допісу (першая злева) з сяброўкай з Рыбал размалёўваюць іконкі.*

# Сустрэчы „Зоркі” ў Рыбалах

На Сустрэчах „Зоркі” мы малявалі крыж, які стаіць у Рыбалах. На крыжы мы з сябрамі з Рыбал малявалі розныя іконы. Я малявала іконку святога Мучаніка Дзіцяткі Гаўрыіла Заблудаўскага. Думаю, што атрымалася нядрэнная іконка. Калі крыж быў ужо ў палавіне размаляваны, мы пайшлі на абед у клуб. Пасля абеду мы канчалі маляванне крыжа. Я намалявала яшчэ адну іконку — Іаана Багаслова, якая мне вельмі спадабалася. Пад вечар пачаў пакрапваць маленькі дождж. Таму маляванне крыжа працягвалі мы ў клуні. На заканчэнне Сустрэч рэдактар „Зоркі” зрабіла нам здымкі. Мы пазнаёміліся таксама з дзяцьмі, што жывуць у Рыбалах. Было вельмі міла і прыемна. Мне вельмі падабалася ў Рыбалах і я хацела б яшчэ пабываць на Сустрэчах „Зоркі”.

**Наталля ШЧУЖЭЎСКАЯ, V кл. ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім**

## Вершы Віктара Шведа

### Каб не мерзлі ногі

Згодна з праграмай у школе
Урок аб дамашняй жывёле.
Настаўнік пытае Лёню:
— Чаму падкоўваюць коней?

Раптам як абавязку
Чакае хлопец падказкі.
Ваня прыйшоў з дапамогай:
— Каб коням не мерзлі ногі.

### У Жэні і Адама тая ж самая мама

Настаўніца кажа: — Блізняты,
Прызнайцеся, хто вінаваты,
Хто адпісаў у хаце
Сачыненне аб маці?

Адказ быў на гэта Адама:
— У нас тая ж самая мама,
Таму ў мяне і Жэні
Аднолькавыя сачыненні.

### Май

Май —
То брат вясны
Старэйшы,
Самы светлы,
Весялейшы.
Усю ноч
Не засынае.
З салавейкам
Ён спявае.
Сад расквеціў
Белым цветам,
Надыход чакае
Лета.

**Авяр'ян ДЗЕРУЖЫНСКІ**

### Мама

Мама —
гэта слова кахання.
Цяжкія з ёю
ёсць расставанні.
Калі ідзеш у свет,
маеш больш зім і лет,
тады добра табе вядома,
што няма нідзе так як дома
і не знойдзеш нідзе такое
мамы як твая — дарагое.

**Мажэна БАДАВЕЦ, ПШ у Дубічах-Царкоўных**

# Зайчыкі

*(казка)*

Селі два зайчыкі ў лясочку пад бярэзінкаю, грэюцца на сонейку і гутараць.

А ў лясочку так добранька!.. Мушкі гудуць, адна за адною ганяюцца, крыльцамі звоняць, як бы смяюцца. А там дроздзік пасвіствае, хлопчыка Піліпку падражнівае:

— Пюліп! Пюліп!

А Піліпка па верасочку з кошыкам ходзіць, на баравічкі прыглядаецца.

Яшчэ далей зязюлька кукуе.

Ну так ясна, цёпла, весела!

Але нявесела зайчыкам, невясёлыя гутаркі іх.

— Ох, якая горкая долечка наша, — кажа адзін зайчык.

— Бойся кожны дзянёчак, трасіся кожную часінку, хадзі, прыслухоўвайся, ці не ходзіць вораг твой блізка.

— А колькі ў нас ворагаў? Хто толькі не крыўдзіць нас, бедных зайчыкаў?

— Крыўдзяць нас людзі, крыўдзяць звяры; нават птушкі-драпежнікі — каршуны, совы, пугачы — і тыя нас, зайчыкаў, ушчуваюць.

— І як бараніцца нам ад злых нашых ворагаў? Чым ратавацца? Адна толькі надзея на нашы ножкі: выбавяць з бяды — наша шчасце, а не выбавяць — прапала наша скурка!

І заплакалі горкенька зайчыкі.

Плачуць і слёзкі лапкамі выціраюць.

— Ці ж можна нам жыць на свеце? — кажа другі зайчык. — Ніхто не баіцца нас, ну, ніхтосенькі!.. Пойдзем, хіба, ды ў ваду кінемся.

Наплакаліся, надумаліся бедныя зайчыкі і пайшлі ў возера тапіцца з гора. Прыйшлі да возера, прыпыніліся, развіталіся. Да самага бережка падышлі, каб у ваду кінуцца, аж бачаць — скок жаба на купіну; убачыла зайчыкаў і спалохалася.

— Эге, — кажа адзін зайчык, — ёсць жа на свеце стварэнні, што і нас баяцца. Відаць, ім яшчэ цяжэй на свеце жыць!

Глянулі зайчыкі адзін на аднаго і пабеглі назад у лясок.

**Якуб КОЛАС**

# Польска-беларуская крыжаванка № 20

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Dramat | | Straż | | Szminka / Chór | | Strefa / Wampir | |
| | | Anioł | | | | | |
| Rumianek | | | | | | | |
| | | | | | | | Rak |
| Panorama / Miód | | | | | Mech | | Rząd |
| | | | | Co? | | | |
| Sala | | | | | | | |
| Zamach | | | | | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 16:** Цуд, яд, ткач, трата, каравул, жупан, губа, лёс, рак, кіно. Цмок, ажур, труба, трапак, кава, ратунак, лён, крысо.

Узнагароды, **запісныя кніжкі**, выйгралі: **Аня Баравік** з Елянкі, **Кася Ярашэвіч** з Кнарыд, **Юстына Гацута** з Трывежы, **Беата Парфянюк** з Хітрай, **Эва Зубрыцкая** з Нарвы, **Наталля Кучынская** з Бельска-Падляшскага і **Цаліна Глагоўская** з Гданьска. **Віншуем!**

# Белліцэісты на сцэне



Удзельнікі пастаноўкі „Заручыны”.

Цэнтральныя элімінацыі дэкламатарскага конкурсу „Сцэнічнае слова” адбыліся 28 красавіка 1999 года ў Бельскім доме культуры.

Хаця маглі прыняць у ім удзел усе ахвотныя вучні сярэдніх школ, працоўная моладзь і студэнты, на сцэне ўжо традыцыйна выступалі толькі белліцэісты з Гайнаўкі і Бельска-Падляшскага. Яшчэ да конкурснага агляду, на якім выступілі чатыры тэатральныя групы і каля трыццаці дэкламатараў, на сцэну выйшлі вучні Падставовай школы н-р 3 з Бельска-Падляшскага. Падрыхтавалі яны вечарыну беларускіх песень, прыказак, прымавак і загадак „Мне засталася спадчына”.

Першымі выступілі вучні чацвёртых класаў Бельскага ліцэя, якія падрыхтавалі пастаноўку паводле п'есы Людмілы Саханавай „Заручыны”. Хаця здараліся моўныя хібы, іх выступленне выклікала найболшае зацікаўленне. Была гэта адзіная пастаноўка, якая не датычыла тэмы мінуўшчыны беларускай вёскі, а адклікалася да сучаснасці. Паказвалі яны безадказнае жыццё Рамэа і Джульеты, герояў, якіх можам знайсці і сярод сучаснай моладзі. Гаварылася там аб экзаменах на атэстат сталасці і ў вышэйшыя ўстановы, аб вяселлі ў маладым узросце, што здараецца і сярод нашых ліцэістаў. Добрай ігрой на сцэне вылучаліся Агнешка Нічыпарук (Джульета) і Дарота Кулачэўская (маці). Добрую падборку рэпертуару і такую ж ігру герояў высока ацаніла журы (Тамара Русачык — старшыня, Яніна Плютовіч — БДК, Альжбета Фіёнік — БДК, Янка Целушэцкі), прысвойваючы ім першае месца, а за выдатную ігру індывідуальную ўзнагароду атрымала Дарота Кулачэўская.

— Мы выступаем ужо ад першага класа і заўсёды паказвалі пастаноўкі на сучасныя тэмы, — кажа Дарота Кулачэўская. — Мы не супраць мінуўшчыны, але хочам, каб атрымаўся жывы кантакт з публікай. Закранаючы тэмы з нашага жыцця, бачым, што моладзь нас разумее і тады хочацца іграць.

Разам са згаданымі ліцэістамі ад першага класа выступае і Бажэна Сэльвановіч, таксама пераможца конкурсных аглядаў. У гэтым годзе да іх дайшлі Міхал Анджэюк і Каміла Максімюк.

— Сёлета крыху пазнавата пачалі мы рыхтавацца, таму і моўных хібаў нельга было пазбегчы. Тэкст падабрала нам настаўніца Зінаіда Дземянюк, а рыхтаваліся самі. Ну, вядома, неабходная была дапамога нашай настаўніцы Яўгеніі Таранты, — гаворыць Агнешка Нічыпарук. — Мы вельмі задаволены, што журы і гледачам спадабалася наша ігра, бо з Даротай Кулачэўскай думаем здаваць экзамены ў філіял Вышэйшай тэатральнай школы ў Беластоку. Ужо некалькі гадоў рыхтуемся да ігры на сцэне ў рамках тэатральнага гуртка пры Бельскім доме культуры.

Добрай ігрой адзначыліся таксама ліцэісты трэціх класаў Бельскага белліцэя, якія пад кіраўніцтвам Анны Бжазоўскай паказалі пастаноўку паводле твора Максіма Багдановіча „Чорт і баба”. Хаця тычылася яна сялянскай мінуўшчыны, то высмейвала дрэнныя прыкметы і з'явы актуальныя таксама сёння. Камісія вырашыла даць ім II месца, а за ігру вылучыць Анну Шымчук (суседа), якая стала таксама пераможцам дэкламатарскага конкурсу.

— Яшчэ ў падставовай школе хацела я пайсці вучыцца ў ліцэй, які рыхтуе да экзаменаў у вышэйшыя тэатральныя школы, але бацькі мяне адгаварылі і пайшла я ў белліцэй, — кажа Аня. — Ёсць нагода, каб дэкламаваць вершы і выступаць на сцэне, дык карыстаю. Калі гаварыць пра перамогу, дык трэба сказаць, што вялікая тут заслуга нашай настаўніцы Анны Бжазоўскай, якая доўга і цярпліва з намі працавала.

Два трэція раўнапраўныя месцы прысвоены былі другакласнікам з Гайнаўкі: Эве Грыц і Паўлу Яўфімюку, якіх рыхтаваў настаўнік Янка Карчэўскі і трэцякласнікам з Бельска, якімі апекавалася Анна Бжазоўская.

— Добра было б, каб гэтыя цікавыя тэатральныя выступленні і дэкламацыю магла пабачыць і паслухаць шырэйшая публіка. Варта было б сарганізаваць другую пазаконкурсную сустрэчу, на якую можна было б запрасіць і бацькоў вучняў, каб паказаць плён іх цяжкай працы, — кажа Янка Карчэўскі, настаўнік Гайнаўскага белліцэя, які ўжо некалькі гадоў вядзе драматычны гурток.

У другой частцы конкурсных змаганняў вучні дэкламавалі вершы і фрагменты прозы. Ліцэісты падабралі тэксты розных аўтараў.

— Думаю, што я не сказала так, як хацела, бо вялікая зала мяне бянтэжыць. Да дэкламацыі патрэбныя больш камерныя абставіны, — заўважыла Ілона Карпюк з Гайнаўкі.

Пераможцам дэкламатарскага конкурсу стала Анна Шымчук з Бельска, якая і ў мінулым годзе заняла першае месца. На другім месцы разам з Ілонай Карпюк апынуліся Агнешка Галімская з Гайнаўкі і Эва Шымчук з Бельска. Трэцяе месца атрымала Галена Сідэвіч з Бельскага белліцэя, а вылучэнне — Анна Садоўская з Гайнаўкі і Іаланта Хомка з Бельска.

**Аляксей Мароз**
*Фота аўтара*



Сцэнка з пастаноўкі „Чорт і баба” (Павел Мінкевіч і Эва Шымчук).

# Чаромхаўская бібліятэка

**„Думаю, дык чытаю; чытаю, значыць, умею...”** — пад такім лозунгам праходзіў у гэтым годзе Сусветны дзень кніжкі і аўтарскіх правоў, які адзначаўся 23 красавіка г.г.

***— Як ставяцца да гэтага лозунга жыхары Чаромхаўскай гміны?***

— Бібліятэка наша працуе ад 1953 года, — расказвае загадчыца Гміннай бібліятэкі ў Чаромсе **Марыя Заборская**. — Налічвае яна 17 тысяч кніжак. З таго ліку вылучаецца каля 5 тысяч тамоў дзіцячай літаратуры, 4-5 тысяч папулярнанавуковай, апошнія — белетрыстыка. Маем беларускі і рускі аддзелы, у асноўным — гэта класіка. Аддзел беларускай літаратуры налічвае каля 300 кніжак. Карыстаюцца імі вучні белліцэяў з Гайнаўкі і Бельска-Падляшскага, ды двое студэнтаў беларускай філалогіі.

***— Скажыце, калі ласка, колькі чытачоў карыстаецца вашай бібліятэкай?***

— Пастаянных чытачоў у нас 473. Большую частку складае моладзь — 275 асоб. Сярод чытачоў маем 17 студэнтаў, 50 канторных работнікаў, 65 пенсіянераў і адзін земляроб.

***— Ці на тэрыторыі гміны працуюць бібліятэчныя пункты?***

— Даўней былі яны ў вясковых клубах „Руху”. Калі клубы „Руху” ліквідавалі, дык зніклі і нашы пункты. Ёсць і іншая праблема: на вёсцы няма такіх людзей, хто мог бы весці такі пункт. Трэба ўсё ж такі зрабіць справаздачу, неабходнае і памяшканне. А ў прыватных кватэрах ніхто не хоча мець лішняга клопату.

***— Якія ў вас праблемы?***

— Асноўнае, гэта брак часу. Адна працую ў бібліятэцы. Шмат часу займае само пазычанне, а прытым і канцылярская работа. Варта адзначыць, што часта прыходзіцца пільнаваць неакуратных чытачоў, пасылаць ім напаміны.

***— Ці трапляюцца несумленныя чытачы, якія не вяртаюць кніжак?***

— На жаль, трапляюцца. Калі б палічыць з 1953 г. (ад пачатку дзейнасці бібліятэкі), дык да нас не вярнулася каля 5 тысяч кніжак. Гэта вялікая страта.

***— Ці атрымоўваеце грошы з гміннага бюджэту на пакупку новых кніжак?***

— Трэба сказаць, што нашы радныя акуратна ставяцца да спраў культуры. У гэтым годзе гміна прызначыла для бібліятэкі 15 тысяч злотых. Ды і ў мінулых гадах не было з тым клопату.

***— А каго лічыце перадавым чытачом у сваім асяроддзі?***

— На першым месцы ў нас пані Зофія Тарасюк, пенсіянерка. Яна ніколі не расстаецца з кніжкай. Наступныя гэта: Галіна Кавальчук, Зянон Баркулак, Ян Пташынскі, Мікалай Баранаў...

Варта адзначыць факт, што ў крузе чытачоў апынуліся людзі, якія бескарысна ахвяравалі зборы сваіх дамашніх бібліятэк для супольнай справы. Такім чынам наша бібліятэка павялічылася на 400 тамоў. Адна толькі Галіна Шабалоўская перадала каля 200 кніжак. Свае зборы ахвяравалі нам таксама Альжбета Мазурэк з Чаромхі і Данута Грыгарук з Кузавы.

***— А вашы пажаданні?***

— Хацелася б ужо на пенсію. Перапрацавала я ў сваёй прафесіі 35 гадоў. Можна падумаць аб адпачынку. Маладым даць шанц на працу.

***— Жадаю вам гэтага ад шчырага сэрца!***

**Уладзімір Сідарук**

# Гімназія ў Нарве

Ад верасня, з пачаткам новага навучальнага года, у Нарве пачне працаваць Дашкольна-школьна-гімназічны комплекс школ з 498 навучэнцамі. На сённяшні дзень у школе 331 вучань. У Нарву дойдуць школьнікі з Крыўца, Трасцянкі ды гімназісты з Ласінкі (застанецца там ПШ — ад 1 па 6 клас). Пакуль што, нявысветлены лёс дзяцей з Тыневіч, якія зараз вучацца ў Чыжоўскай гміне.

— Будзем мець тры першыя гімназічныя класы з 75 асобамі, — кажа дырэктар школы Аліна Асташэўская, якая будзе кіраваць комплексам школ.

— Ці ў гімназіі будзе прадаўжацца навучанне беларускай мове?

— Безумоўна, — кажа Аліна Асташэўская. — У першым класе беларускай мове будзе адводзіцца тры гадзіны ў тыдзень. Вучні з Крывой, Трасцянкі і Ласінкі павялічаць лік навучэнцаў гэтага прадмета. **Г. К.**

# Біблія — кніга кніг

У Беластоку аднойчы нейкі малады яўрэй прыйшоў да настаўніка ды кажа: „Вылажы мне цэлы змест усіх свяшчэнных пісанняў, пакуль я буду стаяць... на адной назе". Настаўнік сцяміў, што гэта якісь жартаўнік, які хоча паздзекавацца, аднак жа здушыў у сабе абурэнне і параіў: „Ідзі да галоўнага рабіна Розэнмана, ад яго даведаешся". Юнак пайшоў ды паўтарыў сваё жаданне. Рабін яму загадвае. „Ставай на адну нагу! Бач, цэлы змест Божай мудрасці заключаецца ў словах: «Госпад Бог наш ёсць Госпад адзіны. Любі Госпада Бога твайго ўсім сэрцам тваім, і ўсёю душою тваёю, і ўсім розумам тваім, і ўсёю моцаю тваёю і бліжняга твайго, як самога сябе». Рэшта — гэта толькі каментарыі". Калі так, — сказаў госць — тады цяпер даследую „каментарыі" (Другазак. 6: 4-5 і Левіт 19:18).

Біблія складаецца са Старога Запавету на яўрэйскай (іўрыт) мове і Новага Запавету — на грэчаскай. Першая частка мае 908 раздзелаў і (калі надрукавана буйнымі літарамі) амаль 850 старонак, другая — 257 раздзелаў і 273 старонкі. Назва „Біблія" пайшла ад старафінікійскага горада Быблёс, дзе перагружалі егіпецкія папірусы і пачаткова азначала „аркуш", „картку" або „скрутак" ды ў рэшце рэшт стасавалася да „кнігі кніг". Яўрэйскі канон дзеліцца на кнігі права, прарокаў і іншыя кнігі. Грэчаскі канон Старога Запавету мае дадаткова кнігі дэўтэракананічныя, г.зн. акрамя канона, напрыклад, вельмі цікавую (афарызмы) кнігу Сіраха.

Канон Новага Запавету сфармаваўся пры канцы IV стагоддзя. Ён уключае 4 Евангеллі і 27 кніг (Дзеянні Святых Апосталаў, Пасланне Якуба, 3 пасланні Пятра, 3 пасланні Іаана, пасланне Юды, 14 пасланняў св. Апостала Паўла) ды Адкрыццё Іаана Багаслова (Апакаліпсіс).

Колькі часу трэба, каб прачытаць усю Біблію? Калі Марцін Лютэр (1483—1546) пераклаў яе за адзін год, тады таксама можна яе смела прачытаць за 12 месяцаў.

У ЗША экземпляры Бібліі можна купіць пад любы густ: малюсенькія і вялікія, з карцінкамі і без іх, пераплеценыя ў паперу, скуру або аксаміт, для дзяцей і сляпых (Брайль). У Варшаве па вуліцы Новы Свят, 40 у магазіне няма такога выбару, але Новы Запавет на беларускай мове можна купіць за 10 злотых (добры пераклад).

Ніхто да канца не ведае дакладна, на колькі моў перакладзена Біблія. Кажуць, 2 тысячы!

У XVI і XVII стагоддзях друкаваны былі шматмоўныя Бібліі (у Антверпене, Парыжы, Лондане і г.д.). Пад канец XIX ст. у Германіі выйшаў шматтомнік, у якім акрамя стараяўрэйскай арыгінальнай мовы на гэтай самай старонцы дадзены грэчаскі тэкст а на суседняй — лацінскі і нямецкі (швабахай, г.зн. гатычным алфавітам). На Мазурах калісь такім жа шрыфтам пратэстанты апублікавалі Біблію на польскай мове.

У нашай дзяржаве вялікім дасягненнем з'яўляецца Biblia Tysiąclecia, перакладзена першы раз у гісторыі з арыгінальных крыніц.

Для навучэнцаў, якія ведаюць азы англійскай мовы, цікавай можа паказацца Bible in Basic English, г.зн. на мове спрошчанай да 850 асноўных слоў, распрацаваная Ц. К. Огдэнам. Хтось скажа: „Гэта ж псуе тэкст". Няпраўда. Так ці сяк, некаторыя сказы без каментарыя ўсё роўна не зразумееш і тады прыходзіцца карыстацца кнігамі з аб'ясненнем.

Я не хачу праз гэта сказаць, што не варта вывучаць біблейскія тэксты на памяць. І святары, і бабулькі хочаш не хочаш запамінаюць багата ўрыўкаў падчас багаслужэнняў, асабліва падчас Літургіі, калі Евангелле і рэшту Новага Запавета чытаюць абавязкова, апрача Адкрыцця Іаана Багаслова.

Калі памяць падводзіць, памагчы могуць *канкардацыі*, г.зн. алфавітныя паказальнікі і да арыгіналу, і да перакладаў. На Русі чамусьці называюць іх сімфоніямі.

Дзе можна чытаць Біблію? Адкажаце: у царкве. Можна чытаць і ў ложку, а вось адзін раз я пабачыў у Палацы культуры і навукі ў Варшаве старую жанчыну ў тамашняй прыбіральні, якая інкасуючы грошы ад наведвальнікаў чытала Біблію!

Праваслаўная багаслужба цудоўная, калі святар і хор вымаўляюць як след тэксты. Хто спявае той моліцца ўдвайне. А малітва — гэта сутнасць рэлігіі. Напісана: „Маліцеся безупынна". А паэт Францішак Карпінскі ў песні „Wszystkie nasze dzienne sprawy" напісаў „A gdy będziem zasypiali // Niech Cię nawet sen nasz chwali". Калі хасід (яўрэйскі містык) ідзе за патрэбай, ён ўсё роўна чытае спецыяльную малітву. Глыбокі сон (без мрой) — гэта сустрэча з Богам. Апошняе з'яўленне на пераклічку адбываецца падчас смерці. Калі яна да нас прыйдзе, ніхто не ведае дакладна. Нат маладыя, якім здаецца, што будуць жыць вечна, часам канаюць. Трэба заўсёды быць гатовым, бо апошнія мыслі маюць вялізарнае значэнне.

Выйшла ў свет кніга „Kościół prawosławny w Polsce dawniej i dziś" (W-wa 1993). Блаславіў яе мітрапаліт Васілій. Там на старонцы 12 напісана: „Першародны грэх (з яго страшнымі рэзультатамі) не пераходзіць з пакалення на пакаленне; здэградаваў ён людскую натуру, але чалавецтва не нясе адказнасці за ўчынак Адама і Евы ў раю. Цяленасць цераз першародны грэх падвяргалася скажэнню толькі ў другарадных прыкметах і можа быць ад гэтага ачышчана ўжо на зямлі. Праваслаўныя прымаюць тэорыю апакатастазы, якая прадвяшчае, што Бог калісь прабачыць усім, нават сатане (віноўніку ўсялякага зла); інакш не быў бы Усеміласцівым Богам. Божая літасцівасць заўсёды перавышае суровую справядлівасць". І, бачыце, не столькі прымат рымскага папы перашкаджае нам аб'яднацца ў веры, колькі каталіцкая хлусня пра векавечнае асуджэнне і бясконцую пакуту ў пекле.

**Сэрафін Корчак-Міхалеўскі**

# Цудоўная крынічка ў Кнарыдах

Гістарычныя крыніцы зафіксавалі існаванне вёскі Кнарыды ў 1515 годзе. Этымалогія назвы вёскі няясная і праўдападобна выводзіцца яна ад родавай назвы *Кнорыд.* У падаткавай кнізе ад 1577 г. згадваецца, што да Боцькаўскай воласці належала вёска *Кнорыдз* — 47 валок, населеная баярамі. У 1576 г. маёнтак Боцькі атрымаў Багдан Сапега, сын Паўла (з кодзеньскай лініі), разам з фальваркамі Старое Сяло і Кнарыды. Сапегі пабудавалі царкву ў Боцьках, якой існаванне пісьмовыя крыніцы адзначылі ў 1507 г.

Пасля *генеральнага візіту* царквы ў Боцьках ад 7 мая 1828 г. засталося такое вось апісанне: *Knorydy znajdują się do tej cerkwi a filialna kaplica na mogiłkach wsi Knorydy drewniana wystawiona w roku 1820 w dobrym stanie zostająca pod tytułem Nayświętszej Maryi Bolesnej — Wsiech Skorbiaszczych Radosti.*

Паводле сучаснай крыніцы — *Katalogu zabytków sztuki w Polsce* ад 1964 г. — у царкве знаходзяцца: *Ołtarz główny barokowy z I poł. w. XVII z obrazem Boga Ojca z ludowym zwieńczeniem, Matka Boża z Dzieciątkiem z I poł. w. XVII w sukience z blachy srebrnej pozłoconej prymitywnej roboty, wiek XVIII. Matka Boża z Dzieciątkiem w. XVII-XVIII silnie przemalowana. Ikona Zdjęcie z Krzyża I poł. XIX w. Kielich barokowy gładki z XVII w. Krzyż ołtarzowy 1813 r. z inicjałami fundatora.*



*Капліца ў Кнарыдах — 60-я гады XX ст.*

Пералічанае абсталяванне царквы можа падказваць, што пабудаваны ў 1820 г. храм не быў першым, калі гэтае начынне не было перанесенае з прыхадской царквы ў Боцьках або з іншага месца. У наш час, 25 чэрвеня 1985 г. зладзеі ўзламаліся ў царкву ў Кнарыдах і ўкралі шэсць ікон і іншае літургічнае начынне. Украдзеныя прадметы не знайшліся.

Цяперашняя царква ў гонар Божай Маці *Усіх тужлівых Радасць* была асвячана 30 студзеня 1873 г. Драўляная царква была пабудавана на сродкі мясцовага жыхара Паўла Цара, які ахвяраваў 650 рублёў, не ўлічваючы сваёй уласнай работы. У *Гродненском календаре* ад 1899 г. адзначаецца, што *в ней имеет место особеннопочтимая икона Пресвятой Богородици всех скорбящих Радость, к которой бывает особенно весьма значительное стечение богомольцов православных и инославных в 10 пятницу после праздника Светлаго Воскресения Христова, когда совершается из церкви сей крестный ход к источнику, находящемуся вблизи церкви, почитаему за священноцелебный. Святая икона писанная на полотне высотою 12 вершков, ширыны 10 вершков, состоит на месте 1819 года, со времени устройства здесь первой церкви, иконопись итальянской школы.*

Паводле легенды, жыватворная крыніца ўзнікла вельмі даўно. Калі бацька са сляпым сынам спыніліся ў лесе на падмоклай паляне, перад імі на вялікім камені з'явілася Божая Маці. Невідучы хлопец хацеў дакрануцца да Яе адзення, але постаць знікла, а з-пад каменя выцекла крыніца. Юнак абмыў крынічнай вадою твар і яму вярнуўся зрок. На месцы цудоўнага здарэння была пабудавана невялікая капліца, а камень з адціснутай ступнёй Божай Маці захаваўся да нашых дзён.

Сама каплічка на працягу стагоддзяў не раз мяняла свой выгляд. Апошні раз рамантавалася яна ў 80-х гадах нашага стагоддзя. У сярэдзіне капліцы знаходзіцца абліцаваная каменем крыніца, з якой вада адводзіцца трубой вонкі. Цячэ яна безупынна зімой і летам. Навокал капліцы вернікі ставяць пакаянныя крыжы.

Падчас II сусветнай вайны артылерыйскі снарад пашкодзіў царкву на могільніку. У 1945 г. была яна адрамантавана. Інтэр'ер царквы аднаўляўся ў 1998 г.

Урачыстая багаслужба ў Кнарыдах здзяйсняецца ў дзесятую пятніцу пасля Вялікадня. У гэты дзень прыбываюць вернікі з навакольных вёсак. Першая, ранішняя, Літургія служыцца ў капліцы, другая — у могільнікавай царкве. Пасля завяршэння Святой Літургіі ў суправаджэнні духавенства традыцыйна адбываецца хрэсны ход да каплічкі пры жыватворнай крыніцы. Урачыстасць канчаецца адслужэннем малебна.

**(агс)**

# „Тройца" Рублёва

Андрэй Рублёў у сваёй „Тройцы" дасягнуў тое, чаго не ўдалося ніводнаму з яго папярэднікаў: выказаў ідэю адзінства і шматлікасці, перавагі аднаго над двума і роўнасці трох, спакою і руху ды тую згоднасць супярэчнасці, якую хрысціянства пераняло ў старажытнай філасофіі.

У „Тройцы" Рублёва Бог і чалавек не выступаюць у апазіцыі; яны зроднены з сабою. Паводле мастака, тры асобы Святой Тройцы сышлі на зямлю толькі таму, каб людзям даць прыклад дружалюбнай згоды і ахвярнасці.

„Тройца" Рублёва — шматзначны сімвал, які можна тлумачыць па-рознаму: даслоўна — як выява гасціны ў Аўраама, пераносна — як праўбраз пакут Хрыстовых, маральна — як заклік да адзінства, урэшце — як адкрыццё сутнасці справы.

Глыбокі сэнс гэтай незвычайнай іконы становіцца ясным толькі ў выніку доўгага і дэталёвага яе вывучэння.

„Тройца" Рублёва ў сваёй складанасці элементаў, слаёў і значэнняў мае няўлоўную для розуму і нявыказаную чароўнасць, якая незалежна ад нашых ведаў іназіранняў ахінае нас кожны раз, калі становімся перад іконай і захапляемся яе прыгажосцю. Сёння ў залах Траццякоўскай галерэі сярод шматлікіх рускіх ікон вылучаецца яна прыгажосцю і дасканаласцю завершанасці мастацкага твора.



Андрэй Рублёў здабыў сабе прыхільнасць не толькі чароўнасцю, талентам каларыста, дасканалым майстэрствам, але дасягнутай у мастацтве праўдай. Гэтая праўда заключаецца ў нечым іншым, чым звычайнае падабенства да навакольнага рэчаіснага свету. У іконах Рублёва з'яўляюцца няб'чачае і неверагоднае, небывалае і незвычайнае, аднак яго мары, жаданні і ўяўленні аказваюцца неабходнымі чалавеку.

**Міхал Мінцэвіч**

# Калі скажуць праўду пра Монтэ-Касіна?

**Гісторыя жыцця Зміцера Падлашчыка з вёскі Алексічы, што ў Заблудаўскай гміне, хапіла б за сцэнарый да некалькіх фільмаў. Змабілізаваны ў польскую армію 20 жніўня 1939 года, вярнуўся ў родную вёску дакладна восем гадоў пазней. Па дарозе зведаў савецкія лагеры, капаў жалезную руду ва ўсходняй Украіне, вугаль на Варкуце, цераз Іран, Ірак, Ліван, Палесціну, Егіпет трапіў пад Монтэ-Касіна, а пасля ў Вялікабрытанію. У невялікай папяровай скрынцы захоўвае памяткі ваеннага блукання — медалі за ўдзел у вайне 1939 г., за ўдзел у бітве пад Монтэ-Касіна, вайсковыя пасведчанні і віншавальныя лісты, сярод якіх адзін з подпісам генерала Уладзіслава Андэрса: „Dla upamiętnienia wspólnych przeżyć".**



Зміцер Падлашчык, 1944 г.

***— Спадар Падлашчык як вы трапілі ў савецкі палон?***

— Пасля мабілізацыі ў жніўні 1939 г. маю роту размясцілі ў Асовецкай крэпасці. Хаця нашы камандзіры кідалі салдат з аднымі вінтоўкамі на нямецкія танкі, не было шанцаў паўстрымаць гітлераўскіх войскаў. Пасля пару дзён абароны нас накіравалі на ўсход, праз заходнюю Беларусь і Украіну мы рушылі ў напрамку румынскай мяжы. 17 верасня, недзе каля мясцовасці Радзівілаўскі Лес, з'явіліся савецкія самалёты, з якіх раскідалі аддрукаваныя на польскай мове адозвы да салдат з заклікам пазбягаць барацьбы з Чырвонай Арміяй. Батальён, які ішоў гэтым жа шляхам перад намі спаліў мястэчка Колкі за тое, што яго жыхары віталі хлебам і соллю чырвонаармейцаў. Пасля савецкая вайсковая авіяцыя амаль цалкам знішчыла тое фарміраванне. 18 верасня наш камандзір вырашыў даць салдатам выбар — пакінуць зброю і вяртацца дамоў або ісці з афіцэрамі на партызанскую вайну з саветамі. Я і яшчэ 5 салдатаў з Беласточчыны вырашылі вяртацца. Але каля Баранавіч злавілі нас саветы і павезлі ў лагер Паўлічын Бор.

Пару дзён пасля прывезлі туды афіцэраў, якія гаварылі нам „вы адгэтуль выйдзеце, мы напэўна не". Першы транспарт салдат, які адышоў з Паўлічынага Бору павёз іх на захад і ўсе яны трапілі дамоў. Мне давялося ехаць другім, але той накіраваўся ў Крывы Рог. Прыйшлося тады капаць жалезную руду. Саветы абяцалі, што пасля месяца-двух саліднай працы адпусцяць нас дамоў.

***— Не стрымалі слова?***

— Калі падставілі вагоны і загадалі займаць месцы, здавалася, што настаў канец мае нядолі, але ранкам мы зарыентаваліся, што цягнік вязе нас на паўночны-ўсход. Так даехалі мы на Варкуту, дзе акурат было сорак градусаў марозу.

***— Як вамі ўспрымалася такая гвалтоўная змена клімату?***

— Усё было нармальна. Далі нам валёнкі, кажухі і з холадам неяк можна было справіцца. Найгорш надакучылі вошы. Не даядалі мы і не дамываліся, таму для вашэй сталі аб'ектам агрэсіі. Кожны вечар трэба было трымаць сарочку над агнём каб хаця частку з іх пазбыцца. Лягчэй стала змагацца з гэтай заразай, калі пабудавалі лазню.

***— З Варкуты вызвалілі вас Сікорскі?***

— Так, пасля, калі ён падпісаў дамову са Сталіным, усіх былых салдат польскай арміі сабралі каля Саратава ў мясцовасці Тацішчава. Была зіма 1942 г., мароз звыш сарака градусаў, а мы жылі ў палатках. Калі да Тацішчава прыехаў Сікорскі, адбыўся нармальны вайсковы парад. Неўзабаве павезлі нас у Персію. Ехалі цягніком тры дні, але калі выйшлі з вагонаў, пабачылі іншы свет, зялёныя дрэвы, птушак...

***— І зусім іншая цывілізацыя.***

— Тое, што тады найбольш уразіла ў Іране, а пасля ў Егіпце — гэта колькасць аўтамабіляў на вуліцах гарадоў. Ні ў нас, ні ў Расіі гэтага не было. Там немагчыма было прайсці вуліцу.

***— У Егіпце была ўжо тады амерыканская армія, англійская, а таксама фарміраванні з іншых куткоў свету. Як складваліся адносіны з салдатамі тых краін?***

— Мы найбольш не любілі англічан. Часта іх трапалі. Дапамагалі нам салдаты польскага паходжання з амерыканскай арміі. Пасля, калі англічане забілі Сікорскага, інцыдэнтаў было яшчэ больш. Дарэчы, не ведаю чаму скрываюць праўду пра смерць Сікорскага. Гэты генерал шанаваў сваіх салдат, не пагаджаўся, каб мы ішлі ў найгоршы агонь, як гэтага хацелі англічане. Сікорскі быў надта незалежны і таму загінуў.

***— Ваш генерал Андэрс не быў такім жа камандзірам?***

— Не, гэта чалавек зусім іншага характару. Калі б сказалі ўсю праўду пра Монтэ-Касіна, можа палякам інакш уяўлялася б тая перамога. Ішлі на тую горную крэпасць амерыканцы, новазеландцы, англічане, але пабачыўшы, што пагражае гэта вялікімі чалавечымі затратамі, адступаліся. Андэрс не ашчаджаў жыцця сваіх салдат. У першую атаку пайшло некалькі ротаў, вярнуліся тры салдаты. Апошнія загінулі на замінаваным немцамі полі. Афіцэры адмаўляліся падымаць салдат у атаку, але тады з'яўляўся Андэрс з жандарамі і пісталетам прымушаў іх выконваць загады. Я быў шафёрам, у адзін бок вазіў боепрыпасы, у другі — забітых салдат. Такой колькасці трупаў я не бачыў за ўсю вайну. Ведаю, што за гэтую бітву афіцэры хацелі Андэрса забіць, але, здаецца, ён уцёк з Еўропы. Сікорскі ніколі не дазволіў бы на такую разню сваіх салдат. Дарэчы, мала хто ведае, што першыя паставілі свой сцяг на Монтэ-Касіна англічане. Мы — палякі, беларусы — занятыя штурмам і не думалі пра сцяг, а яны з'явіліся на гары зараз пасля таго, як мы знішчылі нямецкую абарону. Сарвалі мы іхнюю шмату і ледзь не дайшло да другой бітвы на Монтэ-Касіна — паміж намі і англічанамі.

***— Пасля вайны аднак прыйшлося вам жыць у Англіі.***

— Так, сядзелі там у палатках і каб дарма нас не карміць пасылалі салдат на поле да лордаў капаць, напрыклад, бульбу. Раз мы не вытрымалі і пачалі ісці да лекара заяўляючы пра боль галавы, плячэй і іншыя прыдуманыя цяжкасці. Не хацелася працаваць на англійскіх паноў. Лекар найчасцей аднак ігнараваў нашы наракання і дазваляў выкарыстоўваць салдат да працы ў полі. Надаела ўжо гэта і таму ў пэўны момант проста ад лекара я і пару калег накіраваліся ў бюро, дзе арганізаваўся выезд у Польшчу. Англічане таксама хацелі нас пазбыцца. Вайну выйгралі і мы былі ім ужо непатрэбныя. 1 жніўня 1947 г. я ўжо быў у Польшчы.



Зміцер Падлашчык у Егіпце з салдатамі амерыканскай арміі.

Гутарыў
Яўген МІРАНОВІЧ

# Раман

Не трэ было Раману, дзякуй Богу, ніколі па судах цягацца. Не спатрэбілася. І не судзіўся, і як сведак не ставаў, ні ў справах уласных ні чужых. Калі раз трэба было ў суд ехаць на зацвярджэнне тастамента па бяздзетным браце, сваю спадчыну пісьмова пераказаў іншаму сваяку-сіраце; вядома, паперка была пацверджаная, а сам Раман, на ўсякі выпадак, „захварэў". Бо чаго валачыцца ў Беласток, плаціць грошы за дарогу, час, прызначаны на гаспадарку, траціць! Бачылі вы такое!

Хто любіць таўчыся па свеце, а хто і не вельмі. Хопіць Раману штосераду завезці свае прадукты на рынак у гміннае мястэчка. У Беласток, да дзяцей ды ўнукаў, Раман ужо толькі жонку высылае. Хай нават і пару дзён пасядзіць яна там, а яму тут, у хаце, спакайней. Без бабы справіцца: электрычнасць у хаце і хлявах, не трэба статак кароў два разы ў дзень тузаць за вымя. Уключыў — і пайшло; іншая справа, ці карове прыемна. Усё дзівуецца Раману: нашто яму столькі ўсяго, тая гаспадарка на старасць, калі б мог ужо здаць усё *пад панства*. А то капусты насадзіць столькі, што ўся вёска менш яе мае, то бульбы, пшаніцы, то жывіны столькі... А набірае зямлі яшчэ больш, бярэ суседскую ў арэнду, аблагі заворвае... Ну, весь век добры гаспадар быў. Без зямлі жыць не можа, рукі склаўшы. І цяпер, хоць усе аднагодкі — ужо пенсіянеры, Раман калупаецца ў зямлі, сее, збірае, гадуе. Таўчэцца. Чалавек добры, з суседзямі добра жыве. І добра было б, каб так і да канца...

Ці прадаў Раман Верцы капусту? Ці, можа, яна накрала яе ў яго? Калі б нават украла, то, пэўна, не заўважыў бы, а калі і нават прыкмеціў, то не пашкадаваў бы тых пару галовак. Хай наварыць, наесца. Муж яе пакінуў, жыве адна, зусім апусцілася. Здаецца, штосьці ў яе не так і з галавою ад тае самоты. Шкада старое. Прывалачэцца ў тваю хату, сядзе, транты раскіне, то злосць бярэ, што нічога не робіць — пайшла б дадому, ушчувае суседку Раман, але брыды ж яна не робіць. Была з яе добрая гаспадыня калісьці. Што ж зробіш, жыццё кабеце не ўдалося. І цяпер яшчэ гаспадыня з яе, на яе зямля пішацца...

Ці то хтось параіў Верцы, ці не сам Раман падказаў, каб тое зямлі пазбылася. Значыць, не ў арэнду давала, а прадала. За тыя грошы дажыве ці тутака, ці ў Доме старцаў. Дзяцей не мае, то хто ж яе дагледзіць. А і зямля тут падаражэла, народ мястовы купляе яе на дачы. І тут раптам аб'явіўся Верчын муж, што дух ягоны быў ужо прастыў у ваколіцы. Падаў жонку ў суд, што ненармальная, каб правы адабраць. Што ў грашах яна не разбіраецца, што ходзіць бы блудная па сяле, што вось у Рамана накрала капусты... Шкодная, значыцца, для грамадства, зачыніць яе трэба ў псіхушцы, а маёнтак перадаць мужу, каб распараджаўся. Разводу ў іх жа ж няма. Адваката нават Антон наняў.

— Рамане, я ж у цябе нічога не крала... Не? Паедзь у той суд, скажы, як то было, — узмалілася Верка. Яна не думала пра сапраўдныя матывы дзеяння мужа, забалела яе толькі тое, што робіць з яе зладзейку. Яшчэ каб пэгеэрскае брала, але гаспадарскае?!

Паехаў Раман у Беласток, пасведчыць. Сказаў, што трэба: не крала суседка ў яго капусты. Гаварыў, а глядзеў усім у вочы — і суддзі, і адвакату, і Верцы, і былому суседу Антону... Каб нікому не зашкодзіць, каб ніхто не пакрыўдзіўся... Каб добра было.

Ехаў увесь мокры дахаты.

Міра ЛУКША

# З картатэкі МУС Рэспублікі Саха (Якуція)

**Наш мінскі чытач Алесь БАРКОЎСКІ, які большую частку года праводзіць у Якуцку, зацікавіўся ўраджэнцамі Беласточчыны, якія сасланы былі ў Якуцкі край. У выніку архіўных пошукаў саставіў ён невялікі спіс беластаччан, якія ніжэй друкуем.**

**Асуджаныя
ў працоўна-папраўчых лагерах**

**Брузга Эдуард Антонавіч**, 1920 года нараджэння, м. Кузніца Беластоцкай вобласці, да арышту жыў у в. Павукі Гарадзенскай вобласці, 17.08.1946 г. асуджаны па артыкуле 63 — 1 БССР [здрада радзіме] да 10 гадоў пазбаўлення волі і 5 гадоў пазб. правоў, прыбыў у Індлаг з Дарлагу, 4.01.1947 г. памёр на капальні Маршальская.

**Вільчынская Марыя Язэпаўна**, 1917 г. н., м. Філадэльфія (ЗША), полька, б/п, да арышту жыла на х. Н.-Багатыры Гарадзенскай вобл., арышт. 23.03.1948, ваенным, трыбуналам войск МУС па Гарадзенскай вобл. 30.04.1948 г. асудж. па арт. 63 — 1 БССР да 25 г. пазб. волі і 5 п/п., 29.07.1952 г. жаночы лагер Балаганьнях Індлагу, 6.06.1953 г. выбыла ў жаночы лагер Эльген Маглагу.

**Заброцкі Васіль Сямёнавіч**, 1931 г. н., в. Аўгустова, Бельскага р-на, Беластоцкай вобл., беларус, б/п, арышт. 29.09.1949 г., нар. судом г. Баранавічы асудж. 12.12.1949 г. па арт. 118 БССР да 6 г. 4 м. пазб. волі, 24.05. 1951 г. прынятыІндлагам, 12.05.1953 г. вызвалены.

**Слевінскі Міхась Пятровіч**, 1929 г. н., в. Свалкі (мо Сувалкі?) Беластоцкай вобл., паляк, б/п, шавец, арышт. 4.06.1951 г., нар. судом г. Чыкмента асудж. 6.06.1951 г. за крадзеж па загаду ад 4.06.1947 г. да 10 гадоў пазб. волі і 5 г. п/п., 6.09.1954 г. Дарлаг, 6.09.1954 г. Янсклаг, 18.02.1955 г. вызв., выехаў у г. Львоў.

**Левіт Борух Львовіч**, 1923 г. н., г. Беласток, яўрэй, вышэйшая адукацыя, б/п., арышт. 27.04.1945 г., ваен. трыб. войск МВД Берлінскага гарнізона, 24.04.1945 г. асудж. па арт. 58 — 1б РСФСР [здрада радзіме] да 10 г. пазб. волі і 5 г. п/п., 28.12.1950 г. Індлаг, 17.10.1953 г. выбыў.

**Вараб'ёў Пётра Хведаравіч**, 1926 г. н., в. Белавежа, Гайнаўскага р-на, Беластоцкай вобл., беларус, б/п., служыў у С. А., арышт. 12.11.1947 г., ваен. трыб. войск МУС Разанска-Уральскай чыгункі 26.01.1948 г. асудж. па загаду ад 4.06.1947 г. да 10 г. пазб. волі і 3 г. п/п., 30.11.1952 г. Індлаг, 28.07.1953 г. выбыў.

**Гарбуль Язэп Баляслававіч**, 1922 г. н., Беластоцкая вобл., паляк, асудж. ваен. трыб. войск МУС Беларускага Фронту па арт. 58 — 1а РСФСР да 10 г. пазб. волі і 3 г. п/п., 14.08.1945 г. Індлаг, 14.09.1949 г. Берлаг.

**Грушэўскі Андрэй Андрэевіч**, 1926 г. н., в. Забалоцце, Беластоцкай вобл., 5 кл., украінец, арышт. 3.12.1947 г., ваен. трыб. Брэст-Літоўскай чыгункі 26-27.02.1948 г. асудж. па загаду ад 4.06.1947 г. да 15 г. пазб. волі, 4.01.1952 г. Янсклаг, 12.06.1953 г. выбыў.

**Гугля Рыгор Сяргеевіч**, 1916 г. н., в. Вясёлая Іванаўка, Пяціхацкага р-на, Днепрапятроўскай вобл., рускі, б/п., да арышту жыў у в. Панькі Беластоцкага ваяводства, Польшча, арышт. 22.05.1948 г., ваен. трыб. войск МУС Паўночнай групы войск асудж. 2.08.1948 г. па арт. 58 — 1б РСФСР да 25 г. пазб. волі і 5 г. п/п, 4.04.1954 г. Янсклаг, 11.01.1956 г. вызв., выбыў у в. Вясёлая Іванаўка.

**Дудзінскі Уладзімір Аляксеевіч**, 1926 г. н., м. Чарнавес, Сакульскага р-на, Беластоцкай вобл., паляк, б/п., салдат у С. А., арышт. 5.11.1947 г. за дэзерцірства з войска, паўторна асудж. спец. лат. судом „Б. Г.” 19.06.1951 г. па загаду ад 4.06.1947 г. да 10 г. пазб. волі, 15.09.1951 г. Індлаг, 6.05.1955 г. вызв., выехаў у Гародню.

**Матус Іван Адамавіч**, 1920 г. н., в. Міхайлаўка, Беластоцкага р-на, беларус, шавец, асуджаны нар/судом Паўн. Казахст. вобласці, 6.10.1947 г. па загаду ад 4.06.1947 г. да 8 г. пазб. волі і 3 г. п/п., 16.12.1949 г. прыб. у Індлаг, 14.03.1950 г. выбыў.

**Спецпасяленцы**

**Гайдучэньня Натальля Піліпаўна**, 1900 г. н., в. Шымкі, Беластоцкі р-н, Гарадзенскай вобл., руская, да арышту жыла ў Ленінградзе, працавала на з-дзе „Вулкан”, 7.05.1942 г. арыштавана як маці здрадніка радзімы і выехала на с/п у Алданскую прамысловую акругу ЯАССР, у к-з „Куранах”, 26.12.1944 г. вызв. як няправільна асуджаная.

**Гелер Авігай Янкелеўна**, 1885 г. н., м. Кузніца, Гарадзенскай вобл., яўрэйка, 4 кл., да арышту жыла ў м. Міркене Алітускага р-на ЛССР, у красавіку 1941 выслана на Алтай, 1942 г. у Якуцк, 29.04.1956 г. вызв.

**Кенігсберг Лота Львоўна**, 1912 г. н., г. Беласток, яўрэйка, да арышту жыла ў г. Каўнасе, ЛССР, у кастрычніку 1941 г. выслана на Алтай, у 1942 г. у Якуцк, 10.05.1958 г. вызв.

**Кастэцкі Платон Міхайлавіч**, в. Нова-Свідзялава, Сакольскага р-на, Гарадзенскай вобл., беларус, шавец, да арышту жыў у к-се „Маяк Ільліча”, Тоцкага р-на, Чкалаўскай вобл., 12.07.1949 г. высланы ў п. Брындакінт Алах — Юльскага р-на ЯАССР, 3.12.1957 г. вызвалены.

**Дэпартаваныя 6.06.1945 г.
у Польшчу з ЯАССР**

**Мількамановіч Сафія Адамаўна**, 1914 г. н., м. Саколка, Беластоцкай вобл.

**Петлевіч Ядвіга Мацвееўна**, 1932 г. н., м. Бельск-Падляскі Беластоцкай вобл, бухгалтар.

**Пікульскі Святаслаў Міхайлавіч**, 1933 г. н., г. Гародня, Беластоцкай вобл., бухгалтар.

**Саставіў Алесь БАРКОЎСКІ**

# Помнік д-ру Чарнецкаму

Беларускае гістарычнае таварыства звяртаецца з просьбай аказаць фінансавую дапамогу ў пабудове намагільнага помніка беларускаму нацыянальнаму дзеячу д-ру Міколу Чарнецкаму на праваслаўных могілках у Беластоку-Выгодзе.

Мікола Чарнецкі нарадзіўся 22 мая 1899 г. у вёсцы Малыя Азяраны каля Крынак. Вышэйшую адукацыю атрымаў у Карлавым універсітэце ў Празе. З той пары актыўна ўключыўся ў беларускі нацыянальны рух. Быў блізкім сябрам паэта Уладзіміра Жылкі, супрацоўнікам Тамаша Грыба, настаўнікам беларускай мовы ў беларускай гімназіі ў Клецку. У пачатку 1944 г. быў забіты польскім падполлем непадалёк Беластока.

Асвячэнне помніка адбудзецца ў сотую гадавіну з дня нараджэння беларускага героя, у нядзелю — 23 мая 1999 года а гадз. $11^{30}$. Урачыстасць папярэдзіць Святая Літургія з паніхідай у царкве Усіх Святых у Беластоку-Выгодзе, якая пачнецца ў 10 гадзін.

Грашовыя ахвяраванні можна пералічваць на рахунак:

**Białoruskie Towarzystwo Historyczne,
PBK S.A. w Warszawie I/O Białystok
11101154-210988-2700-1-61, „Pomnik”**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Дарагі Астроне! Даволі доўга ўжо мне штораз сніліся голыя дзеці. А вось нядаўна прыснілася мне голая жанчына. І яшчэ нейкія тры жанчыны сядзелі на лаве з левага боку калідора, а адна — з правага. Я села з правага боку далей. Паміж мною і тымі жанчынамі прайшоў лекар і пайшоў у другія дзверы. Але поўнасцю доктара я не бачыла, бачыла толькі ногі. Таксама бачыла і тых жанчын. Адна была з нашай вёскі. Яна, голая, збіралася мыць ногі. Але вады я не бачыла.

І другі сон прысніўся мне нядаўна. Быццам я ў шпіталі была. Снілася печ. У печы тры дзіркі, аддзеленыя адна ад другой адной кафляй. Бачу пліту і там адкрытыя два кругі, толькі дзіркі відаць. На пліце попел і жар пагашаны, чорны, як бы гэта было з печы вымецена. На першым крузе няма попелу, а на другім поўна таго жару і попелу. Бліснуў чырвоны жар, але зараз жа пагас і стаў чорны.

**БРАНІСЛАВА**

Браніслава! Твае сны пра голых дзяцей мяне занепакоілі. Яны гаварылі пра нейкую страту ў цябе. А цяпер вось яшчэ прыснілася табе голая, без вопраткі жанчына. Каб была яна апранута ў чыстую, прыгожую вопратку, твае справы, несумненна, ішлі б паспяхова. Калі б адзежа была брудная, заплямленая — нехта мог бы цябе абразіць, прынізіць. А калі б была яна апранута ў лахманы ці залатаную вопратку — прадвяшчала б гэта беднасць, нястачу або небяспечную гульню. Героі тваіх сноў былі голыя, зусім неапранутыя, і гэта абазначала б страту.

А найгорш, што тая жанчына (жанчыны ў сне наогул абазначаюць непрыемнасці) яшчэ збіралася мыць ногі. Выглядае, што нехта „змыецца”. Аднак не назаўсёды, бо ўсё ж яна яшчэ ног не мыла, а толькі хацела мыць.

Другі твой сон дае надзею на тое, што твае справы палепшацца. Ты была ў шпіталі, і гэта прадвяшчала б табе супакаенне. А і печка абазначае добраўпарадкаваную гаспадарку. Шкада толькі, што адна фаерка была прыкрыта, а адчынены былі толькі дзве. Нейкая, бадай, трэцяя частка твайго сэрца засмучана. Але перапаленыя вугаллі, попел гавораць аб тым, што ты пазбавішся ад ворагаў.

**АСТРОН**

# Папраўка

У тэксце Мікалая Панфілюка „Пародыя” ў 16 н-ры „Нівы” ад 18 красавіка 1999 г. па віне рэдакцыі слова **гумарыст** заменена была словам *гуманіст*, у выніку чаго змены быў сэнс аднаго сказа. Павінен ён гучаць наступным чынам: «Каліські сам Ленін пахваліў Аркадзія Аверчанку (белага пісьменніка-гумарыста) за яго антыбальшавіцкую кніжку „Дюжина ножей в спину революции”». Аўтара і чытачоў за памылку перапрашаем.

**РЭДАКЦЫЯ**



**Да юбілею мастака**

# Дзве выставы

Сёлета Уладзіслаў Петрук адзначае дваццацігоддзе мастацкай творчасці. Маладзейшым чытачам прыгадаем, што ў 1986-1992 гадах працаваў ён у нашай рэдакцыі мастаком. Жывапісец спецыялізуецца ў рысаванні архітэктурных помнікаў Беласточчыны. Паводле Юбіляра, ягоная цяперашняя творчасць пачалася ў „Ніве”, калі на працягу некалькіх гадоў у рубрыцы „Свойскія малюнкі” кожны тыдзень з'яўляліся зробленыя тушшу малюнкі цэркваў, касцёлаў, каплічак, вясковых хат, мястэчковых дамоў і камяніцаў.

Да юбілею мастака прымеркаваны дзве выставы. Першая — „Архітэктура Падляшша ў рысунках Уладзіслава Петрука” — адкрылася 12 мая ў фае Драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку. Вернісажу спадарожнічала прэзентацыя новай серыі рысункаў, прысвечаных гораду Беластоку.

23 мая г.г. у Гайнаўскім доме культуры будзе адкрыта другая выстава, прымеркаваная да XVIII Міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі. **(вл)**


**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня:** Яўген Мірановіч.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com
**Internet:** *(wydanie elektroniczne w przygotowaniu)*

***Zrealizowano przy pomocy finansowej Ministerstwa Kultury i Sztuki.***
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.

**Камп'ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk”, ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

***Prenumerata:***

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1999 r. upływa 5 czerwca 1999 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. podlaskiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка



Мал. Алега КАРПОВІЧА

## Кароткі курс параноі

**Жахлівая папка**

XX стагоддзе з часам назавуць векам дэманаў. А пакуль мілаваныя лёсам робяць падлікі страт. Так маецца справа і ў Беларусі. Як паведамляе „ЛіМ", вядзецца праца над энцыклапедыяй рэпрэсіраваных пісьменнікаў. У 30-я гады „кіпцюры ГПУ" дацягнуліся амаль да кожнага з больш чым двухсот беларускіх пісьменнікаў. Трагічная гісторыя „першага прызыву" (1917-1937 гг.). Параноя сталіншчыны выбухнула напярэдадні 20-годдзя кастрычніцкага перавароту. Падонкі рэвалюцыі прыступілі да татальнага знішчэння яе найадданых дзяцей. І ў гэтае прадонне трапіла творчая эліта. Захаваліся толькі „класікі".

Сталін ў стадыі параноідната шаленства бачыў адно ворагаў. Дык праз гэты кантаслуп глядзелі і ягоныя апрычнікі: „ворагаў" у душагубку даставяць па канвееры — колькі душа каўказская пажадае. Любы кантынгент выканаюць з гонарам.

Як з жахлівых сноў вынырнула „Папка Бермана". Вось зернятка плёну сталінскага наркома:

„Я. Купала является активным лидером нацфашизма". „В 1928 г. Купала, как активный нацдем, являлся председателем Комитета защиты Белгромады в связи с провакационным процессом ее в Польше. По инициативе Купалы был организован сбор средств в помощь арестованным послам Белгромады в Польше, для чего был проведен литературно-художественный вечер в Минске, который дал 1 200 руб., а в последствии активно помогал переброске послов Белорусской громады из Польши в БССР для активизации и усиления нацфашистской работы".

Вось ён, беларускі лёс: у Варшаве ты — агент Масквы, у Маскве — польскі фашыст. І яшчэ ягадка з той папкі:

„Якуб Колас, старый и хитрый враг Советской власти и Коммунистической партии". „Осуществлял руководство вредительско-шпионской работой Академии наук БССР", „высланному активному нацфашисту Эпимах-Шипилло Колас в сентябре месяце 1931 года выслал деньги".

І з нашага непасрэднага лёсу: асудзілі тады 97 палітэмігрантаў, якія прыехалі ў рэспубліку з Заходняй Беларусі (1933-1934 гг.).

*(З кнігі Расціслава Платонава „Лёсы", Мінск, 1998, 100 экземпляраў).*

У гэтай параноі здзіўляючая жывучасць: пачалася за цара, калі беларускасць лічылася інтрыгай палякаў (і наадварот). Прыйшоў 1956 год — і вар'яцтва адрадзілася. Тут ахрысцілі нас „маскоўскім насеннем", там — „буржуазным нацыяналізмам".

А ці гэты кантаслуп кануў у лету?

**Сідар МАКАЦЁР**

## Клямка клямцы

Шэпча клямка клямцы праўды:
— Калі ўмеў бы, то аддаў бы:
За прыкусы розных п'явак,
За падзертыя заявы,
За слізкі паклон халуйскі
І абмызганыя буські!
Наглядзелася я досыць
Цераз вузкі дзверны просвіт:
Раз адхіляць, захліснуцца,
Іншы раз па-хамску пруцца,
На калені мякка ўпадуць...
Іншы чухаецца ззаду,
Другі лоб пацерты хіліць,
Трэці сморкаўку раскрыліць!..

Клямка праўду рэжа клямцы,
Сваёй добрай каляжанцы.
Шмальцавалі іх далоні,
Што віталіся ў салоне.

**Вандал АРЛЯНСКІ**

## Крыжаванка



**Гарызантальна:** 2. доказ невінаватасці ў злачынстве, 4. беспрынцыпны палітычны дзеяч, 6. правы прыток Амазонкі, 7. возера на поўначы Новай Зеландыі, 9. усходнесібірская рака, уліваецца ў мора Лапцевых, 11. ганебны слуп у Вялікім княстве Літоўскім, 12. жыццядзейнае дно вадаёма, 13. найменшы цотны лік, 15. плыве праз Любань, 17. Іозеф, аўстрыйскі кампазітар (1732—1809), 18. Фра, італьянскі жывапісец (1400—55), 19. халодная калючая зброя.

**Вертыкальна:** 1. від спорту, у якім зборная Беларусі з'яўляецца чэмпіёнам свету, 2. кніга з картамі, 3. уліваецца ў Ангару ў Іркуцку, 4. Луіджы, лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры за 1934 год, 5. штраф за невыкананне абавязацельстваў, 6. школьны стол, 8. марскі арол, 9. англійская мера даўжыні, 10. ранейшая назва фінскага порта Турку, 14. стары воін, 16. горад у Азербайджане блізу мяжы з Нагорным Карабахам, 17. сыравіна для ганчарных вырабаў. **(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 14 нумара**

**Гарызантальна:** кварта, Швабах, Бухвіц, Тана, Раба, Вішнявецкі, Арна, Тапа, Венера, Урбіна, караед.

**Вертыкальна:** квінта, табу, Швіц, Ахтуба, хваляванне, навіна, ракіта, Арктур, паслед, Вена, рака.

Рашэнне: **Віктар Швед**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Аляксанру Дабчынскаму** з Беластока і **Міхалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх.

Белавежскія анекдоты

## Як Фоксевіч ксяндза брыў

У міжваенны перыяд цырульнікаў у Белавежы было шмат, не тое што сёння. На недахоп працы яны асабліва скардзіцца не маглі, таму што тады не толькі стрыглі, але і брылі.

Адным з цырульнікаў быў Фоксевіч. Аднаго разу брыў ён нейкага ўрадніка з Дырэкцыі дзяржаўных лясоў. За паслугу кліент сардэчна падзякаваў і заявіў, што... заплаціць за яе наступным разам.

— Што ж, кліент наш пан! — падумаў Фоксевіч і згадзіўся на крэдытны разлік.

Неўзабаве ў цырульні ізноў паявіўся той „бедны" кліент. Моцна перапрашаючы цырульніка, і на гэты раз папрасіў у яго пачакаць на плату да чарговага брыцця. Фоксевіч моцна ўсхваляваўся, але ў канцы згадзіўся.

Праз некалькі дзёнураднік ізноў пасадавіўся ў цырульніка на крэсле. Той амаль не дастаў апаплексічнага ўдару, калі ўжо трэці раз пачуў тую самую спеўку. Хацеў ужо сказаць кліенту, што пра яго думае, калі якраз у цырульню ўвайшоў мясцовы ксёндз. Што ж, пры свяшчэнніку не выпадала лаяць чалавека, тым больш, што той карыстаючыся нагодай, ужо вышмыгнуўся.

Ксёндз рассеўся на крэсле, Фоксевіч жа за шырмай заняўся вастрэннем на пояску брытвы. Усхваляваны, усё паўтараў пад носам:

— Я цябе, к..., яшчэ пабрыю!

Гэтая пагроза дайшла да вушэй ксяндза. Не вельмі ведаючы ў чым рэч, той пачаў нервавацца. А калі ўжо ўгледзеў кіпучую злосцю твар цырульніка, які выйшаў з-за шырмы з брытвай у руцэ, не стрымаў — сарваўся з крэсла і, не здымаючы закладзенай яму на шыю хусткі, выбег спалоханы на вуліцу.

Дарма Фоксевіч кінуўшыся наўздагон за святаром тлумачыўся, што гэта не яго меў на думцы...

У народзе не ўспамінаецца ўжо аб тым, ці ксёндз надалей астаўся кліентам Фоксевіча.

**Запісаў Пётр БАЙКО**

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Перад прызыўною камісіяй кандыдат у салдаты не можа прачытаць найбольшых літар на стэндзе.

„Здольны толькі да барацьбы супраць танкаў", — заключае камісія.

* * *

Сяржант абучае артылерыстаў:

— Вось тут стаяць два снарады: вучэбны і баявы. Скажыце, каторы з іх баявы?

— Той, што каля вучэбнага.

* * *

— Радавы Кавальскі, вы ўжо трэці раз у гэтым месяцы просіце пабыўку з прычыны цяжкай хваробы бацькі; што гэта мае значыць!?

— А я і сам так падазраваю, ці бацька часам не сімулюе.

* * *

— Чаму не бярэшся за работу? — пытае кіраўнік працаўніка.

— Я такі змучаны, што ледзь жыву.

— Чаму?

— Бо пачаў дарабляць суфлёрам у тэатры пантамімы.

* * *

— Пан дырэктар, няшчасце! Наш кадравік павесіўся ў сваім кабінеце.

— Адрэзалі канат?!

— Не, бо яшчэ варушыцца.

* * *

Бацька прачытаў у газеце: „Футбаліст падпісаў кантракт на дзесяць мільёнаў долараў".

— Чаго так мучышся над гэтымі кнігамі, — звярнуўся да сына, — вазьмі мяч ды ідзі пагуляй з сябрамі!

* * *

— Калі твая сястра думае выходзіць замуж?

— Увесь час.